№ 44 (201) 30 кастрычніка 2000 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА



ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125

# Сьвятыя Дзяды, ляцеце сюды!



УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК

*Увесь мінулы тыдзень у Курапатах шчыравалі людзі. Сябры “Мартыралёгу Беларусі” вывозілі машынамі гальлё і сьмецьце, ставілі новыя крыжы.*

*У пятніцу на “беларускай Галгофе” — на версе курапацкай гары — паставілі два крыжы, якія завершылі мастацкую кампазыцыю “Крыжы памяці”. У ёй адзін крыж — рыма-каталіцкі, другі — праваслаўны і трэці — уніяцкі. Да Дзядоў крыжоў у Курапатах ужо стаяла 20: жалезныя, драўляныя, вялізныя ды малыя.*

*Мая Кляшторная, актывістка “Мартыралёгу Беларусі”, кажа: “Да нас прыяжджалі дапамагчы студэнты, дык у некаторых ажно голас дрыжэў. Яшчэ і ўчора бачылі косткі, адзін хлапчына да мяне падыходзіць і кажа: “А там рука валялася, я яе закапаў...” А было і так, што мяхамі ў яміны косткі засыпалі...”.*

*Сярод тых, хто ўсклаў кветкі ў Курапатах у суботу, была і спн. Козак, якая новага пасла ЗША ў Менску.*

*Учора людзі з розных куткоў Беларусі прывезьлі ў Менск яшчэ тры дзясяткі крыжоў, каб паставіць у Лесе Крыжоў. Пранесьлі іх ад Парку Чалюскінцаў да Курапатаў і пад гукі “Рэквіему” Моцарта паставілі сярод лесу.*

**Андрусь Белавокі**

## Рыгор Пракаповіч: “Мера пакараньня можа быць і вышэйшая”

**Сямён Шарэцкі ў сваёй заяве наконт кастрычніцкіх выбараў адзначыў, што супраць цяперашніх беларускіх уладаў узбуджана крымінальная справа. Карэспандэнт “НН” зьвярнуўся да Генэральнага пракурора Рэспублікі, прызначанага летась Вярхоўным Саветам, сп.Рыгора Пракаповіча з просьбай патлумачыць сэнс гэтай заявы і пракамэнтаваць абставіны ўзбуджэньня справы і ход папярэдняга сьледзтва.**

**Рыгор Пракаповіч:** Так, справа ўзбуджаная, ужо каторы раз я пацьвярджаю гэты факт і заяўляю наступнае. Як вядома, на паседжаньні Вярхоўнага Савету 27 лістапада 1999 г. я быў прызначаны на пасаду Генэральнага пракурора РБ. Прыступіўшы да выкананьня сваіх службовых абавязкаў, няўхільна выконваючы патрабаваньні Канстытуцыі РБ, а таксама ў адпаведнасьці з нормамі крымінальна-працэсуальнага закону, я, як Генэральны пракурор, 1 сьнежня 1999 году ўзбудзіў сваю першую і, мабыць, самую галоўную на гэты час крымінальную справу. Яна ўзбуджана па арт. 61-І ч.2 Крымінальнага Кодэксу РБ і прадугледжвае адказнасьць за захоп дзяржаўнай улады ў Беларусі неканстытуцыйным шляхам (мера пакараньня паводле гэтага артыкулу можа быць нават вышэйшая).

Папярэднім сьледзтвам сабраны і зьбіраюцца факты ў адносінах да тых асоб, якія дапамагалі зьдзейсьніць дзяржаўны пераварот. Трапіла ў поле зроку сьледзтва і вялікая кагорта з блізкага, можна сказаць, самага сяброўскага атачэньня Лукашэнкі — людзей, якія, прыкрываючыся сваімі пасадамі, як перад пагібельлю, цягнуць зь дзяржаўнай

Працяг на старонцы 3.

## “Хлеб-соль, маўчаньне і злачынствы”

526 дзеячоў культуры з усяго сьвету падпісалі зварот з нагоды візыту У.Пуціна ў Парыж. Ініцыятыву францускага філёзафа Андрэ Глюксмана і каталянца Жазэпа Раманэды падтрымалі Адам Міхнік, Элі Візэль, Джон Лё Карэ, Ісмаіл Кадарэ, Ізабэль Аджані, Норман Дэйвіз. “Эўропа прымае Пуціна ў Парыжы, — пішуць яны, — а ў Чачэніі працягваецца брудная і жорсткая вайна. Мы баімся, што маўчаньне пры ціхай згодзе, што запанавала пасьля хутка забытых шэптаў ганьбы, умацуе Пуціна ў яго ганым намеры вынішчаць”. У пэтыцыі, што называецца “Хлеб-соль, маўчаньне і злачынства”, прычыны маўчаньня эўрапейскіх інстытуцыяў тлумачацца формулай “Кроў у абмен на нафту”. Зацікаўленыя ў пастаўках расейскіх энэрганосьбітаў, некаторыя буйныя эўрапейскія карпарацыі вымушаюць палітыкаў маўчаць. Але людзі культуры маўчаць адмаўляюцца.

1990–2000

# Адраджэньне Уніі

18 кастрычніка 1596 г. у Берасьцейскай царкве сьвятога Мікалая была падпісаная Унія. Берасьцейскі Царкоўны Сабор зацьвердзіў аб'ядналне Каталіцкай Царквы з Праваслаўнай на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. 19 кастрычніка 1990 г. мітрапаліт кіеўска-галіцкі Уладзімер Стэрнюк выдаў менскай грэка-каталіцкай грамадзе грамату аб яе прыналежнасьці да старадаўняе Кіева-Галіцкае мітраполіі. Гэта стала афіцыйнай легітымізацыяй парафіі, створанай інтэлектуаламі — грэка-каталікамі 21 верасьня 1990 г. Паміж гэтымі дзьвюма датамі, якія зараз разьдзяляе адзін дзень, — амаль чатыры стагодзьдзі.

Расейскія і камуністычныя ўлады паўтара стагодзьдзя, ад 1839 да 1989 г., стараліся выкрасьліць уніяцкую веру з сэрцаў вернікаў, але ўніяцкае жыцьцё на Беларусі існавала нелегальна. Уніяты, якія засталіся тут, не пагадзіліся з гвалтоўным далучэньнем да праваслаўнай царквы й працягвалі маліцца па-свойму. У 1976 г. у Львове быў тайна высьвячаны на служэньне а.Віктар Данілаў. Першы парах менскай парафіі сьв.Язэпа Ян Матусевіч узгадваў, як падчас ягонага сьвятараваньня ў лацінскім касьцёле да яго зьвярталіся дзясяткі людзей, просячы адправіць абрады па ўсходняй традыцыі. Цяпер гэтая традыцыя ў Беларусі адноўленая.

Чатыры стагодзьдзі, паўтара стагодзьдзя і дзесяць гадоў...

Працяг тэмы на старонцы 8.



**Айцы Сяргей Гаек і Аляксандар Надсан, кіраўнікі беларускай грэка-каталіцкай царквы, падчас аўдыенцыі ў Папы Рымскага.**

# Рыгор Пракаповіч: "Мера пакараньня можа быць і вышэйшая"

Працяг са старонкі 1.

кішэні ў сваю ўласную грашовыя сродкі і матэрыяльныя каштоўнасьці. Закон гэта называе карупцыяй, яна заўсёды квітнее ў дзяржавах з дыктатарскім рэжымам. Ня стала выключэньнем, на жаль, і Беларусь. Але падмануць Закон нельга, і таму адказваць прыйдзецца. А каму? Гэта вырашыць час і папярэдняе сьледзтва. Сёньня рабіць якіясьці сэнсацыйныя паведамленьні — значыць парушыць тайну папярэдняга сьледзтва і ўзьдзейнічаць на яго аб'ектыўнасьць. Адно зноў магу пацьвердзіць: гэтая справа абавязкова будзе мець судовую пэрспэктыву, а вінаватыя — пакараныя.

Так званыя кастрычніцкія выбары — гэта новы крымінальны эпізод, які давядзецца расьсьледаваць у рамках названае крымінальнае справы. Але ўжо зараз ёсьць падставы казаць, што ў дзеяньнях гр.Лідзіі Ярмошынай ёсьць прыкметы грамадзка небясьпечнай дзейнасьці, і калі яна працягне незаконна займаць пасаду, а таксама падводзіць вынікі так званага выбарчага фарсу, то ў яе дзеяньнях будзе і склад злачынства.

Але выснову, ці патрэбна зьбуджаць супраць Ярмошынай, а таксама цэлага шэрагу "вэртыкальшчыкаў" і іншых задзейнічаных рэжымам у гэтых "выбарах" асобаў справу па адным з артыкулаў Крымінальнага Кодэксу РБ, які прадугледжвае адказнасьць за ўчыненьне асабліва небясьпечнага дзяржаўнага злачынства, можна будзе зрабіць толькі пасьля 29 кастрычніка 2000 году.

**Гутарыў Віктар Федаровіч**

# Выбары наперадзе

*Абраньне палаты прадстаўнікоў ня мае абсалютна ніякага значэньня*

Як зазначыў адзін зь сяброў эўрапейскае парлямэнцкае тройкі Вольфганг Бэрэнт (Рада Эўропы), "калі не было ўмоваў для свабодных і справядлівых выбараў, дык вынікі выбараў ня могуць быць прызнаныя". Палата № 2 будзе адыгрываць тую самую дэкаратыўную ролю, што й папярэдняя. Таму казаць пра нейкія ўрокі, што дала апазыцыі гэтая кампанія, проста немагчыма. Хіба што можна заўважыць, што "вэртыкаль" пакарала раскольнікаў: у сталіцы выбары адбыліся амаль скрозь, акрамя трох акругаў, дзе балятаваліся лідэры апазыцыйных партыяў, якія ня бралі ўдзелу ў байкоце, - М.Статкевіч, С.Калякін ды С.Гайдукевіч. Затое выбары чамусьці адбыліся ў менскіх акругах, па якіх ішлі дэпутаты Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Вольга Абрамава й Уладзімер Навасяд. Першая вядомая тым, што ўзначальвае беларускі "Яблык", які бясплённа ўдзельнічаў у леташніх выбарах у мясцовыя саветы, а другі запомніўся сваім рашэньнем адклікаць у лістападзе 1996 г. свой подпіс за імпічмэнт Лукашэнку, бо "вельмі цюнулі на бацькоў". Відавочна, уладзы не настолькі дурныя, каб не пусьціць у дэкаратыўныя дэпутаты дэкаратыўную апазыцыю.

Усе грамадзяне Беларусі, што стала жывуць за мяжою ды ня вельмі часта ходзяць у амбасады, былі далучаныя да менскіх акругаў Калякіна й Навасяда. У Калякіна яўкі не было, у Навасяда яна чамусьці ёсьць. Зрэшты, у сваіх акругах Абрамава ды Навасяд толькі на другім месцы, як і экс-прэм'ер Вячаслаў Кебіч з 29% галасоў у Маладачанскай сельскай — ён саступае старшыні калгасу "Яхімоўшчына" сп.Бажку, які сабраў 45%. Праляцелі і цяперашнія дэпутаты С.Лўшыц ды Ў.Ягораў. Цяжка казаць пра нармальных людзей у першай палаце, але гэтыя, здаецца, былі менавіта такімі. Са старых засталіся А.Малафееў, У.Канаплёў ды І.Пашкевіч. Кажуць, што менавіта яны будуць змагацца перад Лукашэнкам за сьпікерскае крэсла ў палаце.

У другі тур выйшаў адзіны лібэрал-дэмакрат А.Ваганаў, кіраўнік фірмы "Лада-ОМС", што зьвязаная зь няўдалым фордаўскім заводам пад Менскам, але і ён адмовіўся падпарадкавацца рашэньню ЛДП зьняць усіх сваіх кандыдатаў ды выйшаў з партыі. Канкурэнтам Ваганава будзе Ю.Данькоў, чалавек з крымінальным мінулым, якое апісала "Белорусская газета". Гэтае ж выданьне падкрэсьлівае, што толькі "Данькофф-клюб" з усіх менскіх установаў такога кшталту адмовіўся ад удзелу ў антынаркатычнай акцыі. Яшчэ адзін кандыдат "Данькофф-клюбу" выйшаў у другі тур у Старавіленскай акрузе, балятуючыся ад... КПБ. Яшчэ адна падобная кандыдатка балятуецца ў менскай Сухараўскай акрузе - В.Голубева з расейскага тэлеказыно "Што? Дзе? Калі?"


IREX-PROMEDIA

### ТРЫ КАНСТЫТУЦЫІ Й ТРЫ ПАРЛЯМЭНТЫ

Беларусь цяпер мае 3 канстытуцыі: 1994 г., з рэфэрэндумнымі папраўкамі 1996 г. ды яшчэ іхняя супольная частка, якую прызнаюць усе. Беларусь мае таксама 3 парлямэнты. Гэта Вярхоўны Савет 13-га скліканьня ў двух варыянтах (вузкім апазыцыйным ды шырокім з дзьвюма сотнямі дэпутатаў, улучна з палатнымі, большасьць зь якіх не пераабралася ў палату № 2, але *de jure* засталася сябрамі ВС-13) і нацыянальны сход.

Якое тут можа быць выйсьце? Відаць, трэба карыстацца досьведам Балтыі. Абраныя яшчэ за СССР Вярхоўныя Саветы, нелегітымныя з пункту погляду даакупацыйных законаў, абвесьцілі дэклярацыі незалежнасьці ды аднавілі старыя канстытуцыі. Але ці зможа хоць адзін дэпутацкі корпус гэта зрабіць, нягай сабе ВС-13 у найбліжэйшай будучыні абяцалі прызнаваць адзіным законным беларускім парлямэнтам ЗША ды АБСЭ? Не. Гэта зробіць толькі новы прэзыдэнт.

### У БЕЛАРУСІ БУДЗЕ СВОЙ СЦЭНАР

Аляксандар Лукашэнка мае рацыю, калі кажа, што тут Каштуніцы ня будзе. Але Лукашэнка прайграе прэзыдэнцкія выбары ў наступным годзе. Прычына - народ стаміўся, што засьведчылі й апошнія выбары ў палату. Ад занадта яскравых прэзыдэнтаў стамляюцца ня больш як праз 7 год іхнага панаваньня. Міхаіл Гарбачоў кіраваў зь вясны 1985 году да восені 1991-га, Барыс Ельцын - ад зімы 1992 году да зімы 1999-га. Абодва пачалі як усенародныя куміры, а скончылі як бездапаможныя балбатуны. Абодва сышлі нечакана паводле тактыкі, але чакана паводле стратэгіі. Беларусы ня вынятак, але маюць свае асаблівасьці.

Да таго ж Лукашэнку, як і Кебічу, у перадвыбарчай барацьбе будуць дапамагаць тыя ж Мясьнiковіч і Замяталін з тымі самымі мэтадамі, тэхналёгіямі ды маральна нячыстымі мас-мэдыямі. Па-другое, як і Кебіч, ён шмат абяцаў, але народ не дарує шматгадовых пустых абяцанак на тле інфляцыі. Па-трэцяе, як і Кебіча, Шушкевіча ды Мілошавіча, яго зь лёгкасьцю сьпіша ў архіў Крэмль.

### ШТО МАЕ ЗРАБІЦЬ НОВЫ ПРЭЗЫДЭНТ?

Што мае зрабіць новы прэзыдэнт? Падпісаць усяго дзьве паперы: дэкрэт пра аднаўленьне дзеяньня Канстытуцыі 1994 г. ды ўказ пра прызначэньне выбараў у Вярхоўны Савет 14-га скліканьня.

Такая праграма здольная аб'яднаць усіх беларускіх апазыцыянэраў. Трэба ўжо зараз, да вылучэньня кандыдатаў, напісаць простыя ды агульназразумелыя пункты гэтае праграмы, сутнасьць якое - "змагаемся разам не за пасаду, а за парадак ды ўсе пасады". Трэба, каб гэта быў прэтэндэнт, не скампрамэтаваны супрацоўніцтвам зь цяперашнім рэжымам. Каб ён быў чалавекам беларускае культуры. Каб на кастрычніцкіх выбарах ён выступаў за байкот. Каб меў характэрнае прозьвішча.

Галоўнае - ня спаць у шапку. А раптам датэрміновыя выбары?

**Юрыс Окрыўс**

мэханізмы фальсыфікацыі

# "Ілюзіяністка" Ярмошына

*Павелічэньне колькасьці выбарцаў шляхам скарачэньня насельніцтва*

**Каб выбары былі прызнаныя сапраўднымі, уладам трэ было, каб на выбары прыйшлі больш за 50% выбарцаў. На 20.00 15 кастрычніка – момант закрыцьця выбарчых участкаў – у гарадзкіх акругах скарысталіся сваім правам голасу меней за 40% выбарцаў, астатнія падтрымалі заклік дэмакратычнай апазыцыі да байкоту або праігнаравалі выбарчыя падзеі. Тады выбарчыя камісіі, каб павялічыць працэнт яўкі, пачалі "ўдакладняць" сьпісы выбарцаў, прадастаўленыя ім ЖЭСамі за месяц да выбараў, у бок памяншэньня, маўляў, за гэты час нехта памёр, нехта выехаў. У Менску за ноч падліку галасоў падначаленыя Ярмошынай такім чынам "вынішчылі" не адзін працэнт электарату. Спн.Ярмошына заяўляе, што гэта законна. Мы зьвярнуліся да вядомага юрыста, чальца маскоўскай калегіі адвакатаў Гары Паганяйлы, з пытаньнем, ці сапраўдныя, зь юрыдычнага пункту гледжаньня, вынікі парлямэнцкіх выбараў, дасягнутыя шляхам такога "ўдакладненьня сьпісаў"?**


IREX-PROMEDIA
Гары Паганяйла

— Паводле сукупных зьвестак назіральнікаў, у большасьці акругаў выбары ў любым разе не адбыліся, бо колькасьць грамадзянаў, якія прыйшлі галасаваць, складала менш за 50%. Ужо толькі гэта дае падставу прызнаць, што выбары не адбыліся.

Але назіральнікі паведамляюць і пра факты грубых падтасовак вынікаў выбараў. Сярод іх і той, пра які вы кажаце, калі адвольна, без дакумэнтальнага пацьверджаньня – што незаконна — зьмяняліся сьпісы выбарцаў па ўчастках ды акругах, і гэта давала магчымасьць участковым і акруговым камісіям павялічваць працэнт тых, хто прыйшоў на ўчасткі.

Іншы "фокус" камісіяў быў той, што ў выбарчыя урны пры папярэднім галасаваньні і пры галасаваньні на выезьдзе, дый на саміх участках, укідаліся фактычна незапоўненыя бюлетэні, якія потым прызнаваліся несапраўднымі. Але раз гэтыя бюлетэні апынуліся там, раз пад колькасьць укінутых бюлетэняў была падтасаваная колькасьць выбарцаў, што нібыта прыйшлі на ўчасткі, такім чынам таксама зьмянялася статыстыка, і атрымліваўся неабходны для ўчастковых камісіяў вынік, што выбары адбыліся ці, прынамсі, што мае быць другі тур. Гэта ўсё фіксавалася ў дакумэнтах участковых і акруговых камісіяў. Таму Цэнтравыбаркам прызнае выбары сапраўднымі. А назіральнікі — не.

**— Якія законы парушалі сябры выбарчых камісіяў, прадстаўнікі ўладаў?**

— Усе працэдуры, зьвязаныя з ходам выбараў, у тым ліку датэрміновае ці выязное галасаваньне, выразна прапісаныя ў Выбарчым кодэксе. Натуральна, сябры камісіяў павінны ведаць і захоўваць гэтыя парадак. Але былі выпадкі, калі фактычна на ўчастках камандавалі не самі сябры камісіяў, а прадстаўнікі адміністрацыі. Менавіта яны настойвалі, каб у сувязі зь недастатковай яўкай былі арганізаваны шырокія выезды, прычым шмат у якіх выпадках назіральнікам не прад'яўлялі загадзя складзеных сьпісаў выбарцаў, да якіх выяжджаюць. Таму нярэдка аказвалася, што ў гэтых урнах пасьля выязнога галасаваньня была вялікая колькасьць бюлетэняў. А каб сфальшаваць вынікі, асобна не падлічваліся бюлетэні, што былі ў урнах, напрыклад, па датэрміновым галасаваньні, у урнах з выезду і ў стацыянарных урнах. Усё ссыпалася ў адну кучу і толькі затым праводзіўся падлік. Гэта найгрубейшае парушэньне, і чальцы камісіяў наўмысна дапускалі яго, каб схаваць фальшаваньні выбараў.

**— Выходзіць, гэтыя людзі парушылі Выбарчы кодэкс. Але ж за гэта трэба адказваць. Якія варыянты пакараньня за такія ўчынкі прадугледжвае заканадаўства?**

— Усё залежыць ад цяжкасьці правіны, зьвязанай з фальшаваньнем ці парушэньнямі Выбарчага кодэксу. Калі фальшуюцца вынікі галасаваньня, то гэта прамое злоўжываньне службовым становішчам, гэта крымінальна караны падлог. Фальшаваньне вынікаў выбараў назіральнікі расцэньваюць як крымінальныя дзеяньні, ад каго б яны ні зыходзілі — ад сяброў камісіі, ад старшыні камісіі ці прадстаўніка ўлады, які "камандаваў парадам". Калі гэта становіцца для нас зразумелым і факты зафіксаваныя, назіральнікі Беларускага Гельсынскага Камітэту зьвяртаюцца ў органы пракуратуры для ўзбуджэньня крымінальных справаў.

**— Ці можна параўнаць паводле ступені сфальшаванасьці гэтыя выбары з тымі, што праходзілі некалі ў Савецкім Саюзе?**

— У Савецкім Саюзе былі іншыя падыходы да самой выбарчай кампаніі. За ўсё адказвала камуністычная партыя, менавіта яна накіроўвала дзейнасьць сфармаваных пад яе назіраньнем і ўплывам участковых і акруговых камісіяў. Не было такой завядзёнкі, каб выбарцы маглі не пайсьці на выбары. Сыстэма была добра адладжаная, людзей літаральна заганялі на выбарчыя ўчасткі. Вылучаўся адзін кандыдат, і за яго аддавалі галасы ўсе 99,9% выбарцаў. Вынікі былі загадзя вядомыя.

Сёньняшнія выбары сапраўды нагадваюць савецкія часы. Прэзыдэнцкая вэртыкаль жорстка выконвала каманды, што выходзілі з апарату Лукашэнкі, узначальваў выбарчы штаб сп.Мясьніковіч. Мы маем прыклады, скажам, у Ашмянскім раёне, калі кіраўнік адміністрацыі рассылаў дырэктарам прадпрыемстваў жорсткія ўказаньні пра неабходнасьць датэрміновага галасаваньня. Вось учора мы атрымалі вельмі сур'ёзны дакумэнт: старшыня Берасьцейскага аблвыканкаму накіраваў усім кіраўнікам прадпрыемстваў ды ўстановаў у тых выбарчых акругах, дзе выбары павінны адбыцца ў другім туры, папярэджаньне пра асабістую адказнасьць іх за яўку падведамных ім калектываў... У сувязі з гэтым мы ўжо зьвярнуліся да генэральнага пракурора з просьбай пра ўзбуджэньне крымінальнай справы супраць сп.Даўгалёва. Бо гэта жывое парушэньне канстытуцыі й выбарчага кодэксу, прынцыпу добраахвотнасьці волевыяўленьня грамадзянаў. Мы ацэньваем гэта як істотнае парушэньне. Яно дыскрэдытуе ўсю сыстэму выбараў і робіць іх недэмакратычнымі. Менавіта ў такіх умовах допускаецца фальшаваньне выбараў.

Асабіста для мяне няма ніякага сумневу, што і ў другім туры вынікі выбараў будуць сфальшаваныя.

**Гутарыла Тацяна Сьнітко**

# З Горам напалам




Ёсьць падставы сьцьвярджаць, што прэзыдэнцкія выбары 2000 году ў ЗША будуць адны з самых напружаных за апошнія 50 гадоў, бо абодва кандыдаты маюць вельмі блізкія рэйтынгі.

Перад Злучанымі Штатамі паўстала незвычайная праблема: эканамічны росквіт. У краіне існуе не дэфіцыт, а прафіцыт бюджэту. Інакш кажучы, прыбыткі дзяржавы перавышаюць выдаткі. Прычым прафіцыт абяцае быць стабільным і дасягне ў 2010 годзе 685 мільярдаў даляраў. Пасьля 2010 году дзяржава сплоціць усе свае пазыкі і пачне назапашваць грошы. Вялізны прафіцыт ва ўмовах эканамічнага росквіту – гэта выдатны падарунак лёсу. Толькі як яго лепш скарыстаць?

У 1999 годзе амэрыканскія сем'і захавалі на банкаўскіх рахунках толькі 4,1% нацыянальнага прыбытку. Сёньня амэрыканская нацыя ня можа сама рабіць сур'ёзныя інвэстыцыі ў сваю эканоміку. Даводзіцца пазычаць на гэтую мэту з-за мяжы прыкладна 3,4% нацыянальнага прыбытку, але й гэтых грошай не стае. А што калі накіраваць прафіцытныя грошы на зьберажэньні, якія можна будзе інвэставаць у амэрыканскую эканоміку?

З аднаго боку, зьберагаць грошы можа сама дзяржава. Тады ня трэба вялікіх зьменаў у падатковай палітыцы. Зь іншага боку, назапашваць сродкі могуць самі падаткаплатнікі, калі дзяржава зьнізіць падаткі за кошт прафіцытных грошай. Тут і палягае адрозьненьне паміж эканамічнай палітыкай Буша й Гора. Першы лічыць, што захоўваць грошы павінны амэрыканцы, другі перакананы, што рэй павінна весьці дзяржава.

### КУДЫ ПАДЗЕЦЬ ГРОШЫ?

Абодва кандыдаты хочуць палову прафіцыту накіраваць на падтрымку праграмаў пэнсіяў і сацыяльнай дапамогі *Social Security*, якой ахопленыя ўсе амэрыканцы, што маюць працу. Ейныя ўстановы маюць укласьці гэтыя грошы ў банкі. Дзякуючы спрыяльнай кан'юнктуры, амэрыканцы плоцяць сяньня падаткаў больш, чым калі-небудзь дагэтуль, а з-за таго, што беспрацоўе мінімальнае (каля 4%), сацыяльнае страхаваньне проста не пасьпявае траціць сродкі. Але гэткую ідылічную карціну можа пабурыць сыход на пэнсію пакаленьня людзей, народжаных напрыканцы 40-х — пачатку 50-х гадоў. Да іх належыць і прэзыдэнт Клінтан — у наступным годзе ён пойдзе на пэнсію разам з мільёнамі сваіх аднагодкаў. Калі ўрад ня знойдзе новых крыніцаў грошай, то Штаты гадоў праз дзесяць могуць збанкрутаваць. Як і Беларусь, дзе таксама пасьля вайны быў дэмаграфічны бум.

Палову тых грошай, што застануцца пасьля выплаты пэнсіяў, Буш хоча накіраваць на агульнае зьніжэньне падаткаў, прычым роўнае для ўсіх, а гэта значыць, што максымум карысьці ад яго атрымаюць самыя багатыя. Несправядліва, маўляў, калі людзі, што складаюць толькі 1% насельніцтва, плоцяць трэцюю частку ўсіх падаткаў. Гэта дапаможа зьліквідаваць 60% прафіцыту і рэзка падвысіць памер прыватных інвэстыцый у эканоміку.

Джордж Буш яшчэ хоча часткова прыватызаваць дзяржаўнае пэнсійнае забесьпячэньне. Інвэстыцыі ў занядбаную адукацыю павінны, на ягоную думку, ісьці не да бюракратаў, а беспасярэдна да бацькоў. Барацьбу зь беднасьцю Буш гэтаксама хоча даручыць прыватнаму сэктару, паспрыяўшы яму праз падатковыя заахвочваньні для ахвяравальнікаў. Рэлігійныя арганізацыі мусяць шырэй супрацоўнічаць з уладамі штатаў.

Сваю праграму Буш кліча *Compassionate Conservatism* — "спагадны кансэрватызм". Свае прамовы ён заканчвае заклінаньнем: "Я давяраю грамадзянам, а не фэдэральнаму ўраду". Пакуль што рэспубліканцам ўдаецца выстаўляць свой "спагадны кансэрватызм" як гэткі здаровы скептыцызм у дачыненьні да дзяржаўных установаў.

Гор ня змог вынайсьці сабе гэткай жа складнай формулы. Ён разглядае дзяржаву як нейкае грамадзкае прадпрыемства паслугаў, што дапаможа амэрыканцам перайсьці ад грамадзтва прамысловага да інфармацыйнага.

### ЗЬНІЗІЦЬ ПАДАТКІ

Гор хоча зьнізіць падаткі найперш для сем'яў зь сярэднім узроўнем даходаў і на ўтрая меншую суму, чым Буш. 30-ці млн. амэрыканцаў зь ніжэйшымі даходамі ён абяцае падвысіць мінімальны заробак і даць падатковыя льготы. У школы мусяць пайсьці магутная грашовая плынь, грашовае заахвочваньне павінны атрымліваць і настаўнікі. Ільготы атрымаюць і тыя, хто ашчадна ставіцца да навакольнага асяродзьдзя, пераводзіць сваю машыну на газ або даглядае хворых ці старых сваякоў. Пэнсійную сыстэму ён мяркуе пакінуць такой, якая ёсьць, а выхад пакаленьня *babyboomers* на пэнсію ён спадзяецца вытрымаць дзякуючы скарачэньню прафіцыту.

Пазыцыі Гора й Буша аднолькава спрэчныя. Народ наўрад ці будзе назапашваць шмат грошай – хутчэй за ўсё, ён будзе іх траціць. Але ж і дзяржава будзе, найхутчэй, больш траціць, чым назапашваць.

### ПЫТАНЬНЕ ПРА ЛЕКІ

Амэрыканцы жартам кажуць, што лёс выбарчай кампаніі вырашаецца ў Флёрыдзе. Гэты штат падобны да сучаснай Амэрыкі, што старэе і засяляецца новымі эмігрантамі. У штабах абодвух кандыдатаў згодныя, што цяжка выйграць без падтрымкі Флёрыды. Пэнсіянэраў у ЗША 33 мільёны, і таму адным са спрэчных пытаньняў дэбатаў паміж Горам і Бушам было пытаньне коштаў на лекі для пэнсіянэраў. Лекі ў Амэрыцы — нешта накшталт моды. Гэтым карыстаюцца фармацэўтычныя кампаніі, якія устанаўліваюць кошты на іх зусім адвольна, у залежнасьці ад папулярнасьці. Гэта прыводзіць да неабгрунтаванай дарагоўлі, і ў выніку шырокае распаўсюджваньне атрымліваюць вандроўкі пэнсіянэраў у Мэксыку і Канаду — па лекі, што каштуюць там таньней, іншым разам на сотню даляраў. Гэтую праблему закранулі абодва кандыдаты. Буш зноў спадзяецца на самастойнасьць людзей, якія мусяць самі шукаць таньнейшыя лекі, а дзяржава будзе вяртаць ім частку грошай. Гор жа спадзяецца на бюракратыю, прызначае на гэтыя мэты ўтрая менш сродкаў і зьбіраецца пакрываць частку коштаў праз адмысловую дзяржаўную праграму.

Відавочна, што з прыходам рэспубліканцаў больш жорсткай стане замежная палітыка — ня будзе, напрыклад, ратыфікаванае пагадненьне пра забарону ядзерных выпрабаваньняў, будзе за ўсялякі кошт збудаваная, нягледзячы на пратэсты Масквы й Пэкіна, сыстэма проціракетнай абароны. Што ж да стасункаў з эўрапейскімі краінамі, то замежнапалітычная дарадчыца Буша сказала пра "пераразмеркаваньне вайсковай адказнасьці" – гэта значыць, перадачу эўрапейцам асноўнай адказнасьці за падтрыманьне міру ў Косаве і Босьніі. Сама Амэрыка зоймецца канфліктамі ў Пэрсыдзкай затоцы ды ў Азіі.

### БУШ – ІЗАЛЯЦЫЯНІСТ

Буш кажа, што для яго галоўнае — гэта нацыянальныя інтарэсы, і ён бы не хацеў больш пасылаць амэрыканскіх жаўнераў на гуманітарныя апэрацыі і місіі па падтрыманьні міру, Гор жа, наадварот лічыць гэта адным са складнікаў амэрыканскае замежнае палітыкі і выступае супраць ізаляцыянізму.

У гэтым годзе Амэрыку чакае яшчэ адна важная зьмена — на пэнсію пойдуць пяцёра зь дзевяці чальцоў Вярхоўнага Суду, новых судзьдзяў назаве прэзыдэнт, але зацьвярджаць іх будзе Кангрэс. Вярхоўны Суд — вельмі значная ўстанова для амэрыканскае палітычнае сыстэмы — дастаткова прыгадаць рашэньні, датычныя расавай дыскрымінацыі, сьмяротнага пакараньня, свабоды слова, фэдэральнага ладу краіны. Варта згадаць і нядаўнюю справу, калі было вырашана, што спарон — асабістая справа кожнай жанчыны. Гэтае рашэньне ўваходзіць у яўную супярэчнасьць з Бушавай праграмай. Дарэчы, настроенасьць Буша супраць абортаў якраз і можа змусіць многіх кабет аддаць свае галасы Гору. І гэта вельмі істотна, бо якраз галасы жанчын яшчэ не падзеленыя — мужчыны ж ужо збольшага вызначыліся са сваім выбарам.

А пакуль Буш апярэджвае Гора ў апытаньнях грамадзкае думкі.

**Сяргей Рак**

Па просьбе Аб'яднанага Камітэту па пошуку і абароне зьніклых безь зьвестак ваеннапалонных Злучаных Штатаў Амэрыкі Грамадзкае аб'яднаньне "Дыярыуш" бярэ ўдзел у пошуку інфармацыі пра амэрыканскіх грамадзянаў, што зьніклі падчас II сусьветнай вайны і ў наступныя дзесяцігодзьдзі. **Таму ГА "Дыярыуш" зьвяртаецца да ўсіх, хто штосьці ведае пра амэрыканцаў, якія трапілі на тэрыторыю былога Савецкага Саюзу і загінулі тут ці ўтрымліваліся ў лягерох і турмах, з просьбай паведаміць пра гэта.**

Любыя дакумэнты, асабістыя рэчы, а таксама паведамленьні, зьвязаныя са зьнікненьнем амэрыканцаў, будуць зь вялікай удзячнасьцю прыняты сем'ямі, што цягам доўгіх гадоў нічога ня ведалі пра лёс сваіх зьніклых бацькоў, мужоў, сыноў, братоў.

**Загадзя выказваем глыбокую ўдзячнасьць за любую дапамогу і просім дасылаць інфармацыю на адрас: 220064, Менск, а/с 128.**

**Кантактны тэл.: (017) 243-67-51.**

**E-mail: office@dyjaryush.org.by**

**Раман Кардонскі,**
**Радны БНР, Старшыня Аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Новай Англіі:**

# Беларусы будуць галасаваць за Буша

У бальшыні сваёй беларусы будуць галасаваць за Буша. Ёсьць шмат прычын, чаму яны прагаласуюць менавіта так. Джордж Буш-малодшы — кандыдат Рэспубліканскае партыі, зь якой у беларускай дыяспары ЗША даўно ўсталявалася плённае супрацоўніцтва. Неяк так атрымліваецца — ці ня з той прычыны, што дэмакраты больш левыя за рэспубліканцаў — што адміністрацыі дэмакратаў заўсёды здаваліся эмігрантам больш акрэсьлена масквафільскімі, у той час як палітыка рэспубліканцаў была больш узважанай. Трэба таксама памятаць, што менавіта за рэспубліканцаў Рэйгана і Буша была развалена Імпэрыя Зла — Савецкі Саюз, і Беларусь атрымала незалежнасьць. Істотную ролю ў выбары беларусаў мае таксама эканамічная палітыка Буша — напрыклад, ягоныя пляны зьменшыць падатковы прэс, які, як на мой канадыйскі досьвед, хоць і лягчэйшы за канадыйскі, але ўсё роўна істотны. Дарэчы, для беларусаў Амэрыкі было непрыемна і агідна назіраць усе тыя шкандалы, якімі восем гадоў была ўпрыгожаная "эра Клінтана". Але самым, на мой погляд, істотным момантам у выбары беларусаў ЗША зьяўляецца тое, што на працягу васьмі гадоў адміністрацыя Клінтана фактычна ні разу ня выступіла ў абарону незалежнасьці Беларусі. Каб ня цьвёрдая прынцыповая пазыцыя Кангрэсу ЗША, дзе, як ведама, бальшыня належыць рэспубліканцам, то можна было б гаварыць аб фактычнай капітуляцыі Вашынгтону перад Масквой у беларускім пытаньні.

Аналітычны артыкул было б напісаць шмат лягчэй, чымсьці даць вам колькі прычын, чаму беларусы ЗША галасуюць за Буша. Бо тут трэба было б пайсьці ў гісторыю нашае пасьляваеннае нацыянальна сьвядомае хвалі эміграцыі, гісторыю дачыненьняў беларусаў з афіцыйным Вашынгтонам. Неяк так склалася, што рэспубліканцы заўсёды ішлі насустрач беларусам, было моцнае супрацоўніцтва, асабліва ў гады Ніксана й Рэйгана, калі лідэры нашае дыяспары запрашаліся ў Кангрэс ЗША, а нашыя сьвятары маліліся ў Кангрэсе ЗША за Беларусь. Можна шмат чаго прывесьці ў абгрунтаваньне менавіта такога выбару беларусаў. Ён зроблены, з улікам усяе гісторыі дачыненьняў беларускае дыяспары як з рэспубліканцамі, так і з дэмакратамі, а зусім не таму, што мы ў такім захапленьні ад Буша. Дарэчы, выбар Буша як кандыдата ў прэзыдэнты моцна засмуціў беларускую дыяспару, прынамсі палітычна актыўную яе частку. Бо наш кандыдат, сэнатар Маккейн, на жаль, не прайшоў. Але й за Гора галасаваць няма жаданьня. Вядома, цяпер мэдыі ствараюць яму добры імідж. Але праўда застаецца — Гор зусім безаблічны палітык, які хаваўся ў цені Клінтана. На маю думку, наколькі няўдалым быў выбар рэспубліканцаў з Бушам у 1988 г., настолькі няўдалы і сёньняшні выбар дэмакратаў з Горам.



# Постмадэрнізм замест гімнаў

*У студыі забароненага "Радыё 101.2" скончаны запіс супольнага альбому беларускіх рок-музыкаў "Я нарадзіўся тут"*

**NRM, KRIWI, Аляксандар Крывашэеў-Памідораў, іншыя музыкі, а таксама мэцэнат і ініцыятар стварэньня альбому "Сьвяты вечар-2000" Алесь Суша (гаспадар бутыку "Camilla" на пр.Машэрава) амаль падрыхтавалі да выданьня новы супольны праект пад назвай "Я нарадзіўся тут", які мае складацца з рымэйкаў беларускай патрыятычнай клясыкі.**

У альбом увайшлі "Пагоня", "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", "Магутны Божа", "Радзіма мая дарагая", "Нёман", але музычна яны вырашаныя зусім нетрадыцыйна. Упераменжку зь імі ідуць новыя, аўтарскія песьні. Першапачаткова плянавалася назваць альбом "Гімны і маршы", як клясычны альбом, выпушчаны "Нашай Нівай" і хорам "Унія" ў 1998 г., але ўрэшце выбралі назву паводле адной з кампазыцыяў: "Я нарадзіўся тут".

"Усё гэта патрыятычная лірыка, у тым ліку і аўтарскія творы, — кажа Лявон Вольскі. — Усе яны заклікаюць народ да барацьбы за сьветлую будучыню, за Беларусь, супраць прыгнёту. Адзіная песьня, якая выбіваецца з агульнага кантэксту, гэта песьня Памідорава "Крывавае сьвята". Было з-за яе шмат спрэчак, пэўная частка музыкаў стаяла за тое, каб яе выкінуць альбо паставіць бонусам (дадаткам. – В.Л.) ці схаваным трэкам (песьняй, не пазначанай на вокладцы. – В.Л.)".

Цікава выходзіць: з "Каляднага альбому" таксама спрабавалі выкінуць песьню Памідорава, зьбеспраблемілі тэкст, а пасьля яна аказалася ці не адзіным на дыску творам, які ўвогуле можна слухаць. Новы твор – рэпавая драма пра трагедыю на Нямізе з уключаным у тэкст каталіцкім літаньнем. Яго, можаце быць пэўныя, крытыкі назавуць цьвікам гэтага альбому. Пра прычыны ж канфлікту творцы й выдаўца трэба пісаць асобна.

Як і пра тое, чаму на дыску зноў ня будзе "Новага Неба": Камоцкая ня трапіла ў "Калядны альбом", бо не пагадзілася зьмяніць тэкст сваёй клясычнай песьні "Чаканьне Калядаў". Цяпер гісторыя, мабыць, паўтараецца, няма яе і на новай кружэлцы.

— Пасьля запісу каляднага альбому, які сяму-таму здаўся свайго роду "Народным Альбомам — 2", узьнікла ідэя запісаць яшчэ й вайсковы. Песьні пра нараджэньне, пра сьмерць, пра волю, пра выгнаньне. Карціна праяваў чалавечага жыцьця тут, у Беларусі. Галоўная ідэя — каб кожны чалавек, хто нарадзіўся тут, зразумеў, дзе ён нарадзіўся, каб перастала лічыцца за добры густ ганьбіць сваю радзіму, — кажа Памідораў.

Запіс альбому скончаны. Праўда, "Народны альбом" быў ідэяй Міхала Анемпадыстава, а ён з Алесем Сушам "не спрацаваўся".

На дыску зьмясьцілася 21 песьня. Цяпер Алесь Суша сканчае працу над вокладкай, якая будзе пабудаваная на фотаздымках усіх удзельнікаў праекту. Ён спадзяецца, што альбом выйдзе ў канцы лістапада — пачатку сьнежня.

Камусьці ў альбоме спадабаецца лірыка ("Толькі ў сэрцы трывожным пачую..."), камусьці панк-вэрсія "Радзімы маёй дарагой...", камусьці "марш беспрацоўных" на ідыш, пакладзены на злыдневую музыку вельмі нямецкага гурту *Rammstein*, камусьці вэрсія амэрыканскай народнай песьні "*House of the rising sun*", якая большасьці слухачоў вядомая ў апрацоўцы гурту *Animals*, з аўтарскімі беларускімі словамі. Камусьці ўсё – ужо таму, што ён таксама нарадзіўся тут...

Як і Алесь Суша – чалавек, безь якога ўся гэтая музыка не загучала б.

**Вікторыя Ластаўкіна**

# Шапэн без палітыкі

*Нататкі пад трансьляцыю з варшаўскага конкурсу*

Юлія Андрэева

Любяць беларусы конкурс імя Шапэна! Па-першае, яны любяць самога Шапэна як душу безумоўна роднаясную, замілаваную тымі ж мэлянхалійнымі пэйзажамі (лес, луг, рачулка, зарослая абапал хмызьняком, вясковая дарога і неба, зацягнутае аблокамі), тым жа адвечным пачуцьцём самоты, гаркавай жартаўлівасьцю, гукамі сялянскай песьні і габрэйскай скрыпкі. (Вядомая гісторыя, як габрэі, паслухаўшы граньне 15-гадовага Шапэна, а асабліва ягоную мазурку "Жыдок", запрасілі яго зайграць у сябе на вясельлі.) Нават хвароба шапэнаўская – Багдановічава хвароба! – падаецца таемным знакам той душэўнай блізкасьці, якую беларусы ў шчасьлівыя хвіліны паэтычнай засяроджанасьці адкрываюць ці ў сабе, ці ў выпадкова-дакучлівых гуках шапэнаўскай мазуркі, што выходзяць з-пад пальцаў суседскае дачкі і даносяцца праз хліпкую столь у вечаровую заціш кватэры.

Ня кажучы ўжо пра легенду Шапэна, ягонае парыскае выгнаньне – досьвед, аж занадта зразумелы для беларусаў з прычыны поўнае добраахвотнасьці тых уцёкаў. Малады піяніст ехаў на Захад, каб здабыць сусьветную славу; наўздагон яму ляцелі страшныя зьвесткі пра паразу Лістападаўскага паўстаньня ў Варшаве. Ён плакаў, пісаў эцюды і балесныя лісты, у якіх абяцаў неадкладна вярнуцца дахаты; ён марыў паступіць у паўстанцкае войска і загінуць разам з дарагімі сэрцу сябрамі. Але замест гэтага імчаў усё далей на захад – у Парыж. І ніколі болей ня ўбачыў родных твараў і родных мясьцін – не таму, што гэта яму забаранялася, а таму, што баяўся трапіць у пастку расейскіх эміграцыйных законаў і навек захраснуць у Варшаве. Які ж беларускі, у сутнасьці, лёс!

Беларусы заўжды ставіліся і да шапэнаўскіх конкурсаў з асаблівым сантымэнтам.

...У 1980 г. ад Варшавы і Гданьску дыхала свабодаю. Але беларускія хлапчукі – нават кансэрваторскія – задураныя імпэрскай прапагандаю, ірваліся ў паход "душыць польскую гадзіну". Віцебскія дэсантнікі рыхталіся да пералёту... Тымчасам вольныя душы ў Менску зацята круцілі ручкі прыймача, шукаючы хвалі Польскага радыё. 17 верасьня ў Гданьску была створаная "Салідарнасьць"; 24 верасьня яе лідэры падалі ў Варшаўскі Ваяводзскі Суд заяву аб рэгістрацыі; 1 кастрычніка ў Варшаве адкрыўся X Міжнародны конкурс піяністаў. І суцэльны правал конкурсу, прэміі на якім разьмяркоўвалі паводле загаду з Масквы (1-ю ўзнагароду атрымаў студэнт Маскоўскай кансэрваторыі Данг Тхай Шон, 2-ю – Таццяна Шабанава, вучаніца прафэсара Мяржанава з Маскоўскай кансэрваторыі, 3-ю – былы асьпірант Маскоўскай кансэрваторыі Аруцюн Папазян; іхнія імёны вы цяпер адшукаеце хіба што ў спэцыяльным даведніку), і скандал, што выбухнуў вакол ягоных вынікаў (харвацкі піяніст Іва Пагарэліч, найпапулярнейшы канцэртуючы артыст сучаснасьці, не прайшоў тады нават у трэці этап), была прадвесьцем тых хмараў, якімі неўзабаве зацягнула польскі небасхіл.

Потым быў "шэры" конкурс 1985 г. – усё яшчэ ва ўмовах ваеннай дыктатуры. Акурат у дні конкурсу, 13 кастрычніка, меліся адбыцца выбары ў Сойм ПНР. А напярэдадні арыштавалі трох астраномаў з Торуні, якія нелегальна перадавалі праз тэлебачаньне надпісы: "Байкот выбараў – наш абавязак" і "Хопіць павышэньняў цэн, падману і рэпрэсіяў. Салідарнасьць. Торунь". Тым разам у журы не было аніводнага незалежнага прадстаўніка заходніх краін – скрозь палякі і расейцы, ды яшчэ няздарны аўстрыйскі піяніст Бадура-Скода, якога запрашалі на канцэрты, здаецца, толькі ў Маскву. Перамог, вядома ж, расеец – Станіслаў Бунін.

Потым быў "жоўты" конкурс 1990 г. "Жоўтым" яго празвалі за нечуваную колькасьць японак, якія прыехалі ў Варшаву здабываць галоўны прыз. Скрозь дзяўчаты з заможных сем'яў, у якіх ігра на раялі здаўна лічылася нечым прэстыжным і годным любых ахвяраў. Клапатлівыя бацькі, не шкадуючы грошай, пасылалі дачок па навуку ў найлепшыя кансэрваторыі Францыі, Нямеччыны ды Польшчы; але хоць бы тыя дзяўчаты вучыліся ў самога Шапэна, таленту ім гэта б не дадало. Музыказнаўцы дружна жахаліся: няўжо ж славуты шапэнаўскі конкурс, які адкрыў сьвету цэлы шэраг выдатных імёнаў, так бясслаўна канае ў абдымках экзальтаваных паненак? У 1990-м на конкурсе нават не было пераможцы...

Як і ў 1995-м. Але для беларусаў той конкурс быў адметны, бо менавіта ў 1995-м у Варшаве сьвет упершыню даведаўся пра існаваньне беларускай піяністычнай школы: праз 18-гадовага юнака Андрэя Паначэўнага і 27-гадовага Цімура Сергіеню. Абодва нашы піяністы пасьпяхова прайшлі ў другі тур! Паначэўны трапіў у паўфінал, а музычныя крытыкі залічылі яго ў тройку неафіцыйных лідэраў.

Ніводзін з гэтых лідэраў, зразумела ж, у фінал не прайшоў. У журы былі свае "палітычна карэктныя" разьлікі, бо дзьве прэміі атрымалі расейцы, па адной – полька, амэрыканка (вядома ж, лацінскага паходжаньня), японка і француз. Усе яны – акрамя, натуральна, "спадкаемцаў вялікае расейскае фартэпіяннае школы" – вучыліся або ў Польшчы, або ў польскіх пэдагогаў – "носьбітаў шапэнаўскае традыцыі". Хоць дакладна вядома, што вучняў-славянаў у Шапэна не было.

А ў кастрычніку 2000 г. на чарговым шапэнаўскім конкурсе адбылося нешта незвычайнае. Журы, якое складалася на 70% з польскіх пэдагогаў, не прапусьціла ў фінал аніводнага польскага ўдзельніка – пры тым, што польская каманда маладых выканаўцаў налічвала аж 19 асобаў, і пяцёра зь іх атрымлівалі дзяржаўную стыпэндыю як "кандыдаты на высокія ўзнагароды".

Беларусам на сёлетнім конкурсе таксама не пашчасьціла. Юры Бліноў, які дасканаліцца зараз у ЗША, не прайшоў далей другога этапу. Бліноў граў добра, але высачэзны ўзровень конкурсу ня даў яму падняцца вышэй. Маладыя людзі спрачаліся ўжо не за перамогу, а за сваё разуменьне Шапэнавай музыкі. У гэтай справе, як вядома, пераможцаў не бывае.

Фінал стаўся трыюмфам кітайскай школы піяністыкі. Бо сапраўдны лідэр – 18-гадовы Юньды Лі – не вучыўся анідзе за мурамі роднага Пэкіну. І хай камусьці было цяжка з гэтым прымірыцца ("тыя касавокія заўжды граюць мэханістычна, бяз кроплі паэзіі"), сьвежы талент кітайскага студэнта хутка разбурыў непрыступную сьцяну стэрэатыпаў. Па заканчэньні ягоных фінальных праслухоўваньняў выбухнула авацыя, якая цягнулася ня меней як 20 хвілін. Хлапец даўно сышоў са сцэны і даваў за кулісамі інтэрвію, а авацыі доўжыліся. А калі праз некалькі гадзін абвесьцілі вынікі, расейскі піяніст Аляксей Кобрын, 3-я прэмія, падхапіў пераможцу на рукі і высока ўзьняў над натоўпам. Ну, а натоўп – улучна зь няўдачнікамі конкурсу – быў у суцэльным захапленьні.

Сярод ляўрэатаў апынулася яшчэ адна маладая кітайская студэнтка – Са Чэнь (4-я ўзнагарода) і (разам зь Юньды Лі) пачэсная прэмія Таварыства імя Ф.Шапэна "За лепшае выкананьне палянэзу", якую амаль ніколі не аддаюць чужаземцам. 2-я прэмія і срэбны мэдаль — у аргентынкі Інгрыд Флітэр, 5-я прэмія – у італьянца Альбэрта Назэ. Абое яны вучацца ў славутай фартэпіяннай акадэміі ў італьянскім горадзе Імала... Хоць невялічкае, але ўсё ж задавальненьне для нашае эўрапейскае пыхі.

дыскаграфія

## "Музыка здесь. 101,2 FM Style Radio". Розныя выканаўцы. ART Classic Company. (p) 2000.




Тут неяк крочу шырокім праспэктам, бачу – рэклямны шчыт. З надпісам інтрыгуючым: "Музыка здесь". Пашукаў наўкола – не знайшоў. Потым здагадаўся: гэта ж слоган называецца! Слоган беларускай FM-станцыі, якая з дапамогаю касэты вядзе ўласны пі-ар. Вы толькі не падумайце, што ў тым слове "пі-ар" дэфіс сабой пару літараў замяняе, не! Пі-ар і пісуар – паняцьці ўсё ж цалкам розныя. Гэта нягледзячы нават на тое, што зьмест касэты выклікае нейкія не зусім прыемныя пажаданьні.

Не, не разумею! Вось суполка "БелКП-Пресс", нягледзячы на тое, што беларускаю моваю практычна не карыстаецца, зборку выдала зь песьнямі ў выкананьні выключна беларускіх артыстаў. А беларуская FM-станцыя выдае зборнік, з 22 песень якога толькі паўтары – гэта запісы беларускіх выканаўцаў. Гэта калі лічыць Тарыэла Майсурадзэ ды групу "Би-2". А калі не лічыць? Тады толькі выдатны вакаліст сучаснасьці Барыс Маісееў здольны высока несьці горды сьцяг беларускае папулярнае музыкі.

Магчыма, рэпэртуар касэты каго-небудзь і прывядзе ў захапленьне. Мяне ж усе тыя "Гай-Фаі", "ЖинЖины", "Премьер-Министры", Зэмфіры ды "Паскали" змушаюць адно да чарговага перагляду інтэграцыйных працэсаў. З такой вось макулятураю – ды інтэгравацца? Дзякуй, давайце, браце, але безь мяне.

А Тарыэл Майсурадзэ, між іншым, сьпяваць умее, у адрозьненьне ад большасьці калегаў па зборніку. Сьпяваць жыўцом. І часам нават па-беларуску. Але ж у дзіўную кампанію ён трапіў. Хоць, напрыклад, Валерыя ці Вячка Бутусаў – варыянт зь ненайгоршых. "Музыка здесь" ёсьць. Што да іншых – вялікі пытальнік.

**Стыльны Слухач**

# Кальварыя

## Менскай Кальварыі – 200 гадоў



АЛЕНА АДАМЧЫК

Пры канцы 80-х Кальварыя была для мяне адкрыцьцём. Ейная брама адчынялася ў зусім не савецкі сьвет. У ім тоілася нешта сапраўднае, сваё.

Прыехаўшы ў сталіцу вучыцца, я нават ня ведала спачатку пра існаваньне гэтага касьцёла, старых могілак пры ім. Паказалі мне іх палякі, што вучыліся на нашым факультэце.

Кальварыя зачаравала мяне. То было зачараваньне хрышчанай бязбожніцы, роўнае пачуцьцю, якое перажываеш у маленстве, калі маланка б'е ў клён перад хатай.

З таго часу я часта прыяжджала да Кальварыі на выходныя і блукала, чытаючы надпісы. Пакуль на другім курсе не давялося ўцякаць ад нейкага п'янюгі, які выпаўз з-пад паваленага крыжа. Гэты выпадак надоўга спыніў мае блуканьні...

Першыя згадкі пра Кальварыю ў гістарычных крыніцах адносяцца да 1800 г. Пра гэта распавядае ў сваёй кнізе "Кальварыя", выдадзенай тры гады таму, менская дасьледчыца Ала Сакалоўская. Дата "нараджэньня" могілак пацьвярджаецца знойдзеным у Дзяржаўным гістарычным архіве Беларусі прашэньнем шляхціца Васіля Макаровіча, якое той падаў у губэрнскае ўпраўленьне Менску ў чэрвені 1822 году. "У гэтым прашэньні гаворыцца, што Кальварыйскія могілкі былі заснаваныя ў 1800 годзе на зямлі двараніна Васіля Макаровіча, — піша Ала Сакалоўская. – Яго зямля была занятая пад могілкі, гарод, дом (шпіталь), дарогу яшчэ ў 1800 г., калі Васіль Макаровіч быў малалеткам. Межы могілак сьцёртыя ў выніку таго, што яны ўвесь час пашыраліся і займалі сумежную зямлю, якая належала Васілю Макаровічу. Васіль Макаровіч просіць сплаціць грашыма за занятую яшчэ ў 1800 годзе ягоную зямлю". Улады кампэнсавалі шляхціцу страту і неўзабаве купілі ў яго яшчэ зямлі.

Такім чынам, у 2000 годзе Кальварыі спаўняецца роўна 200 гадоў.

Кніга Алы Сакалоўскай сталася першай спробай вывучэньня старых пахаваньняў на Беларусі. У сакавіку сёлета выданьнѐ было ўганараванае прэміяй імя Багушэвіча, якую ўручае Беларускі ПЭН-цэнтар.

Спн.Ала – карэнная мянчанка.

— Мяне зь дзяцінства вадзілі на гэтыя могілкі, — кажа яна. — Там было больш за тры дзясяткі магіл нашых родных. Колькі я сябе памятаю – столькі памятаю Кальварыю. Самае старое пахаваньне — з 1905 г., гэта мой прадзед па лініі бацькі. А па лініі маці – брат майго дзеда, які быў пахаваны ў 1909 г. У 45-м годзе бацька памёр, у 46-м памёрла мая бабця, у 51-м — дзед (вось якраз 23 кастрычніка было 49 гадоў зь яго сьмерці)... Кальварыя для мяне – з маленства знаёмыя клады. Мы даглядалі гэтыя магілы, і зараз даглядаем – праўда, усё менш і менш становіцца ўжо нашых родных у Менску...

А ідэя кнігі зьявілася ў будучай аўтаркі даволі нечакана.

— Быў 90-ты год, вясна. Вінцук Вячорка папрасіў, каб я паказала, дзе пахаваны Вацлаў Іваноўскі. Мы дамовіліся, сустрэліся каля брамы, і я паказала тое месца. Тады на магіле яшчэ не было крыжа, крыж быў пастаўлены пазьней. Калі хавалі, то крыж, вядома, быў, але ж зь цягам часу ён проста згніў. Пасьля мы ставілі яго. Пахадзілі па могілках, паглядзелі: там Янка Лучына пахаваны, Ян Баляслаў Луцкевіч... Вячорка кажа: "Добра было б напісаць кнігу пра знакамітых людзей, якія тут пахаваныя". Я думала над гэтым, і мне прыйшла такая думка ў галаву: я яшчэ, магчыма, ня ведаю ўсіх знакамітых людзей, якія тут пахаваны! А можа, там іх яшчэ больш? А калі захавалася магіла, якой, скажам, 150 гадоў, 200, ці нават 100, то гэта ж таксама каштоўнасьць. Нават камень, якому шмат гадоў, проста камень – і то лічыцца каштоўнасьцю. А там жа — людзі!




АЛА САКАЛОЎСКАЯ

Спачатку спадарыня Ала вырашыла проста перапісаць усіх, хто пахаваны на Кальварыі. Аднак зрабіць гэта адной было немагчыма. Яна ўзяла толькі тыя магілкі, на якіх стаяць помнікі. "Ужо пры савецкай ўладзе помнікаў ня ставілі, бо людзі былі надта бедныя. Вось і на нашых пахаваньнях няма помнікаў, а ёсьць крыжы. Таму я вырашыла, што апішу помнікі, а гэтую кніжку прысьвячу свайму роду – усяму роду, ня толькі тым, хто знайшоў спачын на Кальварыі. Бо Кальварыя з 1967 г. была зачыненая для пахаваньняў, і некаторыя мае родныя пахаваны ў іншых месцах". Ала Сакалоўская кажа, што яна прадстаўляе толькі трэцяе пакаленьне менчукоў па матчынай лініі, а па бацькавай нават і ня ведае, якое: "Там, як я сягаю ў глыбіню, то ўсё менчукі!". Сказала пра ідэю сваёй цётцы, а тая: маўляў, немагчыма Кальварыю гэтак вось перапісаць!.. Але нашая гераіня не здавалася: узяла карткі, аркуш мілімэтроўкі (бо вырашыла, што адразу будзе рабіць карту-схему могілак). Узяла яшчэ й нож, і вядро з вадой: некаторыя помнікі так зарасьлі мохам, што надпісы немагчыма было прачытаць. Часам яна чытала тэксты на плітах пальцамі, навобмацак. Частку іх трэ было ачысьціць, некаторыя проста ўрасьлі ў зямлю, частка ляжыць ніцма. Чытаньне тэксту на гэтых помніках – не жаночая справа. Трэба лом і дужыя мужыкі, каб для пачатку падняць такую каменную глыбу.

"Я ішла алейкамі, радамі, ішла й чытала. На гэта я затраціла тры сэзоны. Тры разы "вясна-лета-восень". Тры гады. Зімою немагчыма гэта было рабіць. Я сьпісвала ўсё, што напісана на помніку. Пазначала парадкавы нумар. Утварылася вялізная картатэка". З картатэкай дасьледчыца пайшла ў гістарычны архіў шукаць матэрыялаў аб самой Кальварыі ды касцёльныя мэтрычныя кнігі.

"Я знайшла частку. Гэта, можа, якая дваццатая частка з таго, што было. Як высьветлілася, калі немцы адступалі, у будынак менскага загсу трапіла бомба, і загс згарэў. І ўсё, што там было, згарэла. Але частка кніг чамусьці захоўвалася ў іншым месцы. Цяпер яна ёсьць у гістарычным архіве". Ала Сакалоўская лічыць, што захаваліся касцёльныя кнігі менскай Катэдры.

"Запісвалася, хто памёр, колькі гадоў пражыў, кім ён быў – ягоны стан, нават у большасьці выпадкаў напісана, з чаго памёр. Затым пазначаецца, каго ён пакінуў пасьля сябе, і ў некаторых выпадках — нават колькі гадоў было жонцы на момант яго сьмерці, колькі – дзецям. Гэта вельмі каштоўная крыніца. Але шукаць – гэта ж праблема! Там жа адначасова рэгістраваліся пахаваньні і на Кальварыі, і на Залатой Горцы. Трэ было кальварыйскія пахаваньні вылучыць. Я павінна была трымаць у галаве вялізную картатэку зь імёнаў людзей, якія сьпісала з помнікаў – недзе паўтары тысячы. Вядома, я нешта прапусьціла. Я знайшла нямнога, крыху больш за сотню людзей, на якія ёсьць ня толькі прозьвішча на помніку, але й запіс у касцёльнай мэтрычнай кнізе". Гартаючы касцёльныя кнігі, спадарыня Ала бачыла, што сустракаюцца імёны беларускай шляхты. Вырашыла ўключыць у кнігу яшчэ й гэтых людзей, хоць іхнія магілы не захаваліся.

Калі насупраць імені ў кніжцы стаіць літара "а" – значыць, захаваўся толькі архіўны запіс у мэтрычнай кнізе; калі толькі "м" – ёсьць толькі магіла гэтага чалавека. Большасьць у кнізе – менавіта імёны зь літарай "м". Ці запісу ў архіве не было знойдзена, ці запісы былі ў тых кнігах, якія згарэлі ў вайну.

Праца А.Сакалоўскай была выдадзена ў 1997 г. з дапамогай Чырвонага касьцёла, прадмову да яе напісаў пробашч гэтага касьцёла ксёндз-магістар Уладзіслаў Завальнюк. Годам раней выйшла кніжка пра Кальварыю і ў Польшчы. (1996 г., Т.Чарняўская і А.Ярашэвіч, "Рымска-каталіцкі цьвінтар Кальварыя ў Менску на Беларусі", першы том сэрыі "Могілкі на даўніх Усходніх Крэсах Рэчы Паспалітай"). Яна ўяўляе сабой толькі рэестар, пералік імёнаў людзей безь ніякіх зьвестак пра тое, кім яны былі пры жыцьці. Палякі апісалі збольшага толькі магілы каля Кальварыйскага касьцёла.

"Там гэта ўсё падаецца як могілкі на даўніх "крэсах всходніх" — з ухілам у пальшчызну, быццам бы пахаваныя тут адны палякі, — дзеліцца меркаваньнем Ала Сакалоўская.— Шкода, што гэткую кніжку рабілі ў асноўным нашыя навукоўцы. Чытаеш – і робіцца прыкра. Каб гэта палякі пісалі, то яшчэ зразумела. Але пісаць толькі за тое, што ім за гэта заплацілі – я гэтага не разумею". Дарэчы, згодна з аўтаркаю "Кальварыі", моваведам і выкладчыцай роднай мовы ў Лінгвістычным унівэрсытэце, многія польскамоўныя надпісы на могілках зроблены паводле правілаў беларускай артаграфіі, з захаваньнем беларускіх моўных асаблівасьцяў. Гэта значыць, што польская мова не была роднай для нашчадкаў пахаваных тут.

Ала Сакалоўская плянуе прадоўжыць працу: уключыць у кнігу імёны ўсіх, хто пахаваны на Кальварыі і пра каго напісана ў архіўных дакумэнтах. Праўда, апошнія запісы ў мэтрычных кнігах зроблены напрыканцы XIX ст. "Я яшчэ паспрабую потым схадзіць у загс – можа, там што-небудзь ёсьць? Можа, і XX ст. ёсьць запісы? Акрамя таго, ксёндз зробіць аб'яву ў касьцёле (і мы дамо яшчэ ў газэце). Каб людзі, чые родзічы, блізкія, знаёмыя пахаваныя на Кальварыі, зайшлі ў касьцёл і пакінулі пра іх зьвесткі. Гэта будуць і цяперашнія пахаваньні, і 20–40-х гадоў. Бо зноў прайсьці так, як я поўзала там па гэтых магілках – гэта аднаму няможна". Гэтая жанчына баіцца за лёс Кальварыі. Каль-

АЛА САКАЛОЎСКАЯ

варыю могуць зьнішчыць новымі пахаваньнямі на старых касьцях – ужо тры гады як могілкі зноў адчыненыя для пахаваньняў. Сама яна мае трывожны прыклад магілы свайго дзедавага брата: "Магілка тая з 1909 году, яна парасла барвінкам. Відаць, што крыж пафарбаваны, але мы зьнялі шыльдачку, каб зрабіць новую. Прыходзім, а там ужо стаіць палка і надпіс: "Могіла неухожена. Подлежіт сносу". Непадалёк ад нашага пахаваньня ёсьць гара, там некалі (мне расказвала мама) былі пахаваныя аўстрыйцы, якія загінулі яшчэ ў першую імпэрыялістычную вайну. А потым — усё ж ворагаў магілы... Яны былі зьнішчаны, і там былі пахаваныя нашы людзі. Ну, людзі ж паміраюць, няма каму становіцца даглядаць за магіламі. Цяпер там усё новае. У мяне ёсьць фотаздымак, зроблены пяць гадоў таму, і цяпер ужо ўсё зусім іншае. Я баюся, што яны не даглядзяць і па тых помніках, што ляжаць паваленыя, могуць якім бульдозэрам прайсьціся. Бо там такі лесапавал ідзе. Усё месца вызваляюць, бо месца – гэта даляры.

Зь іншага боку, добра, што месца гэтае ажыло, людзі болей сталі яго наведваць, і цяпер ня страшна туды заходзіць. Бо было ж боязна, там жа быў "рэстаран "Кресты", як яго называлі п'яніцы. Цяпер там ёсьць міліцэйскі пост. Я лічу, што трэба, каб ня толькі брама была пад аховай дзяржавы як помнік архітэктуры, але і могілкі. А гэта значыць – і касьцёл, і ўсе помнікі, якія там ёсьць. Яны павінны быць пад аховай дзяржавы. І няможна так: вось тут занядбаная магілка – значыць, паставілі шыльдачку, і ўсё, і хутка знос. Калі захавалася, то можна знайсьці месца".

Я спытала сваю суразмоўцу, што б яна параіла рабіць з занядбанымі магілкамі. Праверыць, хто там пахаваны, а потым ужо прымаць рашэньне, ці чапаць яе?

— Я думаю, што ўсё-ткі не чапаць. Трэба прыбраць, як прыбіраюць на ўсіх могілках сьвету. Там ёсьць адмысловыя службы. Якія косяць траву, нейкія магілы прыводзяць у належны стан. Я была нядаўна ў Беластоку, хадзіла там па праваслаўных могілках. Там ёсьць такія старыя магілкі, на якія ўжо ніхто ня ходзіць. Яны як стаялі, так і стаяць. Магчыма, і ў нас калі-небудзь такое зьявіцца...

Дырэктар нью-ёрскага Беларускага інстытуту навукі і мастацтваў, былы мянчук Вітаўт Кіпель прызнаўся, што падораная Алай Сакалоўскай кніга пра Кальварыю пайшла па руках нашых суайчыньнікаў за мяжой, і ён нават ня можа адшукаць свой асобнік. Падобнае ж сьведчаньне трапілася мне ў менскім спэцкамбінаце рытуальных паслугаў. Намесьнік начальніка пахавальнай установы Аркадзь Зелікаў прызнаўся, што таксама меў дома тую кнігу, але вось — пайшла па руках знаёмых ...

Напэўна, калі б спадару Зелікаву кніжку аддалі ў час, нам бы не давялося пераконваць адзін аднаго ў праўдзівасьці двух зусім розных датаў заснаваньня Кальварыйскіх могілак. Чамусьці ў спэцкамбінаце лічаць, што Кальварыя "ёсьць пайшла" толькі з 1870 г. Пад шклом на стале кабінэту ляжаў аркуш, зь якога мне і была зачытана гэтая дата. На жаль, ніхто ня можа сказаць, адкуль яна ўзялася. Няўжо на 70 гадоў памылілася якая-небудзь савецкіх часоў энцыкляпэдыя?

Аркадзь Зелікаў распавёў мне, што ў ліку найбольш старых могілак Менску – таксама Лошыцкія ды Вайсковыя могілкі (паводле ягоных зьвесткак, заснаваныя адпаведна ў 1821 і 1840 г.).

Менскі спэцкамбінат бытавога абслугоўваньня даглядае 22 аб'екты. Гэта 19 могілак у сталіцы і паблізу, крэматорый, само пахавальнае бюро з крамамі рытуальных тавараў, мэмарыяльны комплекс зь Вечным агнём, што на выезьдзе з гораду ў бок ждановіцкага рынку. Кальварыя – адны зь сямі сталічных могілак, што маюць статус могілак "камэрцыйнага" пахаваньня (яшчэ чатыры менскія пагосты – "агульнага пахаваньня"). Новыя месцы на старой Кальварыі каштуюць тры сотні даляраў. Але, як падкрэсьліў у размове Аркадзь Зелікаў, кошты на частку паслугаў яшчэ не азначаюць багацьця саміх супрацоўнікаў жалобнай установы: "Ніводнай капейкі ад камэрцыйных могілак мы ня маем, нашыя заробкі самыя малыя ў Менску. Грошы йдуць на будоўлю новых, Заходніх могілак за вёскай Азярцо на Ракаўскай шашы". Што да Кальварыі, то ў наступным годзе плянуюцца там рамонт плоту, стварэньне калюмбарных (г.зн. з урнамі для праху) муроў. Ужо распрацаваная ўся праектная дакумэнтацыя.

Рамонт не зачэпіць магіл і надмагільляў. Спэцкамбінат кіруецца ў сваёй дзейнасьці рашэньнямі установы, якой ён належыць – Менгарвыканкаму. Паводле рашэньня ўладаў, усе надмагільныя збудаваньні – прыватная ўласнасьць грамадзянаў. Менавіта грамадзяне, а не дзяржава, і адказваюць за парадак на магілах. Калі пахаваньне не даглядаецца, на ім ставяць шыльдачку, якая папярэджвае пра будучы знос магілы. Ён адбываецца, як патлумачыў сп.Зелікаў, калі на працягу трох гадоў сваякі пахаванага не зьвярнуліся ў спэцкамбінат. На жаль, на гэтых папераджальных шыльдах нідзе не пазначаецца дата іх устаноўкі – аказваецца, яна толькі заносіцца ў адмысловую кнігу ўліку ў пахавальным бюро.

"А як жа быць з помнікамі вядомых людзей мінулых часін? — слушна спытаеце вы. – Што рабіць з гістарычнымі каштоўнасьцямі?" Каб спэцкамбінат нешта зрабіў на магіле слыннага чалавека, патрабуецца просьба ягоных сваякоў і "папера пра тое, што гэта дзеяч рэспубліканскага значэньня". Пажадана таксама, каб было й фінансаваньне з боку дзяржавы: Аркадзь Зелікаў зьвярнуў маю ўвагу, што камбінат – не бюджэтная ўстанова, ён працуе на гаспадарчым разьліку. Пры гэтым рытуальная крама ня мае права падвышаць кошты на тавары, як прадуктовая – штомесяц на кілбасу, тут хутчэй можна правесьці паралель з танным хлебам. Гэта завецца "сацыяльна значнымі", альбо для ўсіх даступнымі, паслугамі й таварамі. "Як жывем – гэтак і паміраем", — кажуць тут.

Апошні прыклад захоўваньня памяці вядомых на Беларусі людзей такі. На зварот дачкі былога міністра шляхоў зносін Беларусі работнікі пахавальнай установы ўласнымі сіламі падладзілі надмагільле ды абнесьлі яго новай агароджай. Нябожчык кіраваў шляхамі зносін у Беларусі перад вайной і ў вайну...

Цяпер уявіце сабе, калі зможаце, што ў спэцыялізаваны сталічны КБА зьвяртаюцца нашчадкі Вайніловічаў... Вацлава Іваноўскага... Яна Баляслава Луцкевіча... Па-мойму, яшчэ вялікае пытаньне, ці прызнае іх наш гарвыканкам "дзеячамі рэспубліканскага значэньня". Дый проста – дзеячамі. Бо ж яны былі нязгодныя з савецкай уладай. А калі ўлічыць, што ў нашай каленіі нават на магілы тых, хто далучаў Беларусь да імпэрыі, грошай не стае...

Клопат пра ўпарадкаваньне магіл слынных беларусаў – справа рук саміх беларусаў. Уладам гэткую справу наўрад ці можна даверыць, а ад супрацоўнікаў могілак тут мала што залежыць. Адмысловых службаў, якія б даглядалі ўсе пахаваньні на тых ці іншых могілках, у нас няма. Не заўважана й супрацоўніцтва "могілкавай" установы зь дзяржаўнымі арганізацыямі, якія павінны займацца захаваньнем культурнай спадчыны. Такія аддзелы, камісіі й г.д. ёсьць у Мінкульце, урадзе, Вярхоўным Савеце. Хоць якая дзяржава – такая і памяць, але дапамагаць яны ўсё ж мусяць.

Ужо тры гады Кальварыю ахоўвае асобны батальён гарадзкое міліцыі. Паваленымі помнікамі ды пашкоджанымі часам крыжамі, што праўда, міліцыя не займаецца. Хлопцы дзень і ноч ловяць парушальнікаў правапарадку. Найчасьцей на Кальварыі затрымліваюць за "п'янку ў грамадзкім месцы" або "дробнае хуліганства". Яшчэ па 51-м артыкуле (дробны крадзёж). Але не так даўно пісалі й рапарт на аднаго выкрадальніка аўтазапчастак з машын смуткуючых сваякоў – справа была ўзбуджаная па 87-м артыкуле (крадзёж).

Блукаючы па алеях Кальварыі пару месяцаў таму, я сустрэла маладога хлопца ў міліцэйскай форме, які, праходжваючыся, зачытаўся надмагільнымі надпісамі.

Акрамя мянчанкі Алы Сакалоўскай ды смуткуючых па "крэсах" палякаў, пра Кальварыю рыхтаваўся выдаць кнігу Архіў найноўшай гісторыі. Аднак праект гэты быў урэшце закінуты з-за кадравых перастановак у Архіве. Са словаў цяперашняга кіраўніка Архіву Вацлава Арэшкі, зараз ідзе пошук магчымасьцяў працягу працы. Гэта пошук ня толькі выдаўцоў, але найперш навукоўцаў-гісторыкаў, якія б маглі прафэсійна давесьці да ладу вялізны сабраны матар'ял.

"У Беларусі шмат такіх могілак, як менская Кальварыя, — кажа Вацлаў Арэшка. – Яны ёсьць ва ўсіх нашых старых гарадах. Старыя магілы захаваліся часткова, але ж там пахавана столькі знаных людзей, шляхецкіх родаў, беларускіх дзеячаў! Адны з самых цікавых старых могілак – у Наваградку".

У сваёй кнізе пра "цьвінтары на крэсах всходніх" суседзі-палякі якраз паабяцалі апісаць усе старыя цьвінтары ўсіх старажытных мястэчак Беларусі. Апісаць, вядома ж, як могільнікі выключна польскія.

Як кажа Вацлаў Арэшка, беларусаў можа напаткаць лёс татараў і габрэяў, нацыянальныя могілкі якіх даўно панішчаныя... У дзяцінстве я бачыла рассыпаныя на ўзьлеску камяні з надпісамі па-габрэйску... Можаце сабе ўявіць праз сто гадоў раскіданыя па лесе кавалкі каменя зь беларускімі імёнамі?

**Тацяна Сьнітко**

*Болей пра Кальварыю – у "Нашай Ніве" № 3(100), 1998.*

**Карлас Шэрман і Ўладзімер Арлоў уручаюць Але Сакалоўскай прэмію Беларускага ПЭН-Цэнтру за кнігу "Кальварыя".**

## калянДар

**22 кастрычніка 1925 г. саветамі быў арыштаваны Юрка Лістапад**. Юры Лістапад нарадзіўся ў 1897 г. у вёсцы Воркавічы Слуцкага павету. Пасьля сканчэньня ў 1918 г. 1-х беларускіх пэдагагічных курсаў ён працаваў на Случчыне школьным інструктарам, адчыніў некалькі беларускіх школак. У 1920 г. Юрка Лістапад браў удзел у Слуцкім збройным чыне. Параза случакоў прымусіла яго пераехаць у Вільню, аднак праз два гады ён нелегальна вярнуўся ў БССР. Легалізавацца Лістапад здолеў дзякуючы амністыі ўдзельнікам антысавецкай барацьбы. Ён уладкаваўся выкладчыкам беларусазнаўства на Слуцкіх агульнаадукацыйных курсах. У 1925 г. Лістапад выехаў у Менск працаваць у дзяржаўным выдавецтве.

А ў Слуцку склалася нелегальнае моладзевае кола, якое ставіла за мэту змаганьне з саветызацыяй Случчыны нават праз антысавецкае паўстаньне. "Падпольшчыкі" выдавалі саматужны часопіс "Наша слова" і адозвы. Зьяўленьне адной з такіх улётак выклікала перапалох у ГПУ, пачаліся арышты падазроных і "нядобранадзейных", адзін з арыштаваных *чыстасардэчна прызнаўся.* Юрку Лістападу інкрымінавалі правадырства ў арганізацыі. У сакавіку 1926 г. Лістапад быў асуджаны на 5 год. Гэтым судом адкрыўся шэраг працэсаў над "нацдэмамі".

**29 кастрычніка 1950 г. Панцеляймон Панамарэнка прызначаны міністрам нарыхтовак СССР.** На Панамарэнку ляжыць адказнасьць за масавыя рэпрэсіі ў Беларусі і арганізацыю правакацыйнага партызанскага руху, за які беларусы заплацілі тысячамі жыцьцяў. Пры гэтым стараньнямі беларускіх савецкіх пісьменьнікаў яму стваралі імідж апекуна мастацтваў. Таму, мабыць, зь міністра нарыхтовак яго зробяць міністрам культуры СССР (1953–1954 г.)

**30 кастрычніка 1925 г. сёньняшняя Нацыянальная бібліятэка набыла ў Ленінградзе 5 кніг Францішка Скарыны**. Бібліятэка пачала свой шлях з 1921 г., калі была заснаваная ў выглядзе бібліятэкі БДУ. У 1943–44 г. у ейным будынку знаходзілася рэзыдэнцыя Беларускай Цэнтральнай Рады. Гэта не перашкодзіла немцам разрабаваць усе яе зборы. Нягледзячы на гістарычныя катаклізмы, цяпер у яе сховішчах ёсьць 10 Бібліяў нашага першадрукара.

**31 кастрычніка 1925 г. памёр Міхаіл Фрунзэ, савецкі палітычны і ваенны дзеяч, рэвалюцыянэр**. У лютым-сакавіку 1917 г. ён узначальваў менскую гарадзкую міліцыю. 20 красавіка Міхаіл Фрунзе, які тады карыстаўся партыйна-падпольным прозьвішчам Міхайлаў, склікаў зьезд сялянскіх дэпутатаў Менскай і Віленскай губэрняў. Рэвалюцыйным арганізацыям трэ было вызначаць сваё стаўленьне да Белнацкаму. Выканаўчы камітэт прыняў рэзалюцыю, у якой адмаўлялася самастойнасьць беларускай нацыі і ейнае права на самавызначэньне. Зьезд катэгарычна выступіў супраць стварэньня беларускіх школак. Празь некалькі месяцаў ідэямі Міхайлава-Фрунзэ кіраваліся Мясьнікян, Ландэр, Кнорын. А цяпер Саюз беларускіх пісьменьнікаў сядзіць на вуліцы ягонага імя.

**2 лістапада 1975 г. пры таямнічых абставінах на пляжы пад Рымам загінуў П'ер Паўла Пазаліні, італьянскі пісьменьнік, перакладчык, кінарэжысэр.** Пазаліні пісаў вершы на фрыульскай мове, а ў кіно быў прадаўжальнікам ідэяў нэарэалізму. Найбольш вядомыя ягоныя карціны – "Эвангельле ад Мацьвея", "Дэкамэрон", "Кентэрбэрыйскія аповеды", "Цымус тысячы і адной ночы". Апошнім фільмам Пазаліні стала карціна "Сало, ці 120 дзён Садому" пра эпоху Мусаліні, у якой фашызм трактаваўся не праз палітычныя рэаліі, а праз прызму сэксуальных вычварэньняў.

**4 лістапада 1800 г. нарадзіўся Міхаіл Галубовіч, уніяцкі, а потым праваслаўны царкоўны дзеяч.** М.Галубовіч скончыў Віленскую галоўную ўніяцкую сэмінарыю. У 1828–1831 гг. ён служыў выкладчыкам у Літоўскай духоўнай сэмінарыі ў Жыровічах. З 1831 г. – віцэ-старшыня Літоўскай уніяцкай духоўнай кансысторыі, а пасьля сьмерці жонкі – архімандрыт Быценскага кляштару базыльянаў. У 1839 г. Міхаіл Галубовіч разам зь іншымі сьвятарамі падпісаў акт аб скасаваньні Берасьцейскай царкоўнай уніі і далучэньні Ўніяцкай царквы да Праваслаўнай. Новая ўлада шчодра ўзнагародзіла яго за гэта. Ён заняў высокія пасады ў праваслаўнай гіерархіі: япіскап пінскі, япіскап менскі, а з 1853 г. архіяпіскап менскі. Айцец Міхаіл пераклаў на "польскую мову зь мясцовымі асаблівасьцямі" праваслаўны катэхізіс. Падставай для гэтага стала дрэннае веданьне былымі ўніяцкімі, а тады ўжо праваслаўнымі сьвятарамі расейскай мовы.

**5 лістапада 1975 г. памёр каўдыльё Франка, які кіраваў Гішпаніяй 36 год.** Генэрал Франка спыніў спаўзаньне краіны ў камуністычную бездань і захаваў капіталістычны ўклад эканомікі. Хоць і абавязаны сваёй перамогай Гітлеру, ён захаваў нэўтралітэт у II сусьветнай вайне, а гішпанская зямля стала прытулкам для габрэяў. Ён быў шчырым каталіком, Франсыска Франка. Ягоныя ваякі забілі Лёрку. Падчас грамадзянскай вайны ў Гішпаніі на баку рэспубліканцаў змагаліся беларусы з СССР і Польшчы, у тым ліку Грыцавец. А вось генэрал Станіслаў Булак-Балаховіч быў дарадцам пры штабе Франка.

**Алег Гардзіенка**

# Адраджэньне Уніі



**Уладзімер Арлоў, пісьменьнік:**

Найвыразьней мне памятаецца першае грэка-каталіцкае набажэнства ў касьцёле на Кальварыі, калі ў Беларусь упершыню прыехаў апостальскі візытатар а.Аляксандар Надсан. Гэта быў момант духоўнай узьнёсласьці, момант сьветлага адкрыцьця, момант адзінства...

Наагул я не царкоўны вернік. Мне здаецца, што ня менш шчыра й плённа, чым у храме, я магу змовіцца зь небам і за пісьмовым сталом.

Наведаўшы за сваё жыцьцё, напэўна, больш за 1000 цэркваў, касьцёлаў, кірхаў, мячэтаў, сынагогаў і нават паганскіх капішчаў, у некаторых зь іх, хоць і надзвычай рэдка, я сапраўды пачуваўся ў Храме. Прыкладам, у Полацкіх Сафіі і Спасаўскай царкве Эўфрасіньнеўскага манастыра. Або ў Віленскім касьцёле сьв.Ганны. Але — няхай даруюць мне бажніцы Беларусі ў яе этнаграфічных межах — найглыбейшым гэта адчуваньне было ў беларускай грэка-каталіцкай царкве сьвв. апп. Пятра й Паўлы ў Лёндане. Тут можна, вядома, пашукаць нейкія зямныя прычыны. Напрыклад, згадаць полацкага сьвятара а.Міхаіла Ўляхіна, які лічыў за абавязак, убачыўшы маю бараду ў Спасаўцы, цярпліва тлумачыць мне, недасьведчанаму, што Скарыну насамрэч клікалі Георгіем і што ён быў да апошняга пазногця зьлеплены з праваслаўнага цеста, гэтаксама як цар-бацюхна Іван Грозны, які вызваліў Полацак ад лацінскіх схізматыкаў (а за адным разам, заўважым, і ад самых палачанаў, каго перарэзаўшы, а каго загнаўшы ў маскоўскую няволю). Але рэч не ў празьмерным канфэсійным патрыятызьме сьвятароў, ад якога застаецца адзін крок да палітычнае заангажаванасьці. І, магчыма, ня ў мове літургіі й казаньняў, хоць гэта я лічу архіважным. Прычыну мае незвычайнае сумоўнасьці зь лёнданскай Петрапаўлаўкай наўрад ці можна растлумачыць. Тут мне чамусьці ўзгадваецца параўнаньне гісторыі зь бясконцым літургічным тэкстам, дзе ёты ды кропкі маюць ня меншую значнасьць за цэлыя разьдзелы, хоць сэнс і адных і другіх ня ведамы й схаваны за сямю пячаткамі.



**Сьвятлана Бельская, біёляг:**

“Усе пад Богам ходзім”, — гучыць абыходкавая фраза як з вуснаў вернікаў, так і тых, што лічаць сябе атэістамі. Упэўнена, што на самой справе абсалютных бязбожнікаў не існуе. Нават самы заўзяты нявернік інстынктыўна адчувае волю Творцы, Яго голас у сваёй душы. Мусіць, гэта нашае сумленьне, наш унутраны голас.

Не атрымаўшы Хросту ў дзяцінстве, я заўсёды падсьвядома цягнулася да таямнічага сьвету Царквы, наведвала лаўры і храмы, верыла ў Бога і, як магла, малілася. Разумела, што толькі праз Хрост чалавек яднаецца з Царквою і праз яе далучаецца да ўсіх Сьвятых дароў, але, калі я асэнсоўвала ўласна беларускую царкоўную гісторыю, ня вельмі проста было вызначыцца канфэсійна. Пачуўшы, што адраджаецца ў Беларусі ўніяцкая Царква, адразу зразумела — гэта маё. У 1991 годзе прыняла ад айца Яна Матусевіча Сьвяты Хрост з Боскім блаславенствам у “беларускай хатцы” — філіі музэя М.Багдановіча, што паблізу майго дому. Сьветлая памяць майму шаноўнаму Яну “Хрысьціцелю”.

Каб выжыць людзям у наш час, трэба маліцца адзін за аднаго, за здароўе блізкіх, за супакой памерлых. Трэба прасіць Госпада ня толькі за сваіх сучасьнікаў, але і за тых, каго Ён яшчэ пакліча да жыцьця. Неабходна маліцца бацькам за дзяцей сваіх. Многія нашыя беды тлумачацца духоўнай дэградацыяй некалькіх пакаленьняў XX ст., бо тыя, што нарадзілі нас, не маліліся. Малітва, асабліва агульная малітва ў Царкве, валодае вялікай Сілай і можа дапамагчы там, дзе нічога нельга дасягнуць ніякімі эмпірычнымі намаганьнямі. Калі падае хтосьці, ён падае адзін, але збаўляецца ў Царкве ў адзінстве зь іншымі. У агульнай малітве, у Сьвятой Літургіі ўся Царква моліцца за ўсіх сваіх вернікаў разам з анёламі, апосталамі, пакутнікамі, праайцамі, і мацней за ўсіх — Маці Божая. І гэтае сьвятое адзінства — ёсьць жыцьцё Царквы. Мы молімся за нашу Радзіму — Беларусь, маленькімі часьцінкамі якой зьяўляемся, і яна набірае духоўную нязломнасьць. Усе громкія прамовы аб адраджэньні Радзімы без адраджэньня чалавека і без адраджэньня ў ім Хрыста застануцца нежыцьцяздольнымі.

Ласка Госпада нашага Ісуса Хрыста і малітвы Яго Прачыстай Маці няхай не пакінуць нас, грэшных, у цяжкую гадзіну...



**Арына Вячорка, матэматык:**

Выбар веры для дзяцей зрабіла я. Дзеці мусяць быць уніятамі, вырашыла, бо ёсьць традыцыя. Калі нарадзілася Радаслава, паўстала пытаньне, якую веру яна прыме. Я традыцыяналістка, і мяняць веру бацькоў не зьбіралася. Мы высьветлілі, што бацька Вінцука быў уніятам. Сам ён з Турава-Піншчыны, паляшук, а на Палесьсі ўніяцтва захоўвалася доўга, аж да пачатку другой сусьветнай вайны.

# Царква, што выйшла з падпольля

*Гутарка зь першым старостам першай у паваеннай Беларусі грэка-каталіцкай парафіі Сяргеем Абламейкам*



— 10 год таму са стварэньнем у Менску парафіі Сьвятога Язэпа гэтая царква ў чарговы раз выйшла з падпольля, куды ў XIX стагодзьдзі яе загналі расейскі ўрад і расейская царква. Але нягледзячы на так званае скасаваньне Уніі ў Беларусі расейскімі ўладамі ў 1839 і 1875 гадах, нашая царква і містычна, і кананічна існавала й датуль. (Паводле каталіцкага кананічнага права царкоўныя структуры, якія зь нейкіх прычын зьніклі, уважаюцца існуючымі яшчэ 100 год). Так што патаемнае (але цалкам кананічнае) высьвячэньне мітрапалітам Шаптыцкім у верасьні 1914 году ў Кіеве а.Іосіфа Боцяна на япіскапа Луцкага зь перадачай у ягоную юрысдыкцыю ўсіх скасаваных расейцамі ў 1839 годзе беларускіх эпархіяў сталася кананічным працягам жыцьця нашай царквы ў падпольлі.

Пасьля ўжо была так званая Нэа-Унія і стварэньне мітрапалітам Шаптыцкім беларускага Экзархату на чале з айцом Антонам Неманцэвічам у 1939 г., які быў кананічна зацьверджаны Ватыканам у 1941 г. Ён, дарэчы, існуе і зараз.

**— Як усё пачыналася ў 1990-м?**

— Я стыхійна верыў у Бога зь дзяцінства. У 1982 годзе я пачаў зь сябрамі гаварыць па-беларуску. У 1983 годзе паступіў на гістарычны факультэт БДУ, дзе мы разам зь сябрамі ўтварылі гурток гісторыі Беларусі. Ідэя яго стварэньня належала Алесю Каханоўскаму, сыну Генадзя Каханоўскага, які быў на курс за мяне старэйшы. Алесь быў і кіраўніком гуртка. На сваіх паседжаньнях мы размаўлялі па-беларуску. У 1984 годзе мы дамовіліся з прафэсарам Юр’ем Хадыкам, што ён на працягу году прачытае для нашага гуртка цыкль лекцыяў па гісторыі старога беларускага мастацтва. На першай лекцыі Юр’я Віктаравіча ў кастрычніку 1984 году, апрача 5-6 сяброў гуртка, прысутнічала ўсё кіраўніцтва катэдры гісторыі Беларусі, дэкан Іраіда Царук (Прытыцкая), ейныя намесьнікі, партарг факультэту... Прафэсар Хадыка прачытаў сваю традыцыйную лекцыю з паказам слайдаў. Назаўтра мы выпусьцілі чарговы нумар сваёй беларускамоўнай насьценгазэты “Зямля пад белымі крыламі”, дзе асноўным матар’ялам быў мой рукапісны артыкул пра лекцыю прафэсара Хадыкі і яе зьмест. Як вы разумееце, лекцыя была пра старыя ўніяцкія абразы і пра ролю Уніі ў гісторыі беларускага мастацтва... У той жа дзень насьценгазэту сарвалі са стэнду, цыкль лекцыяў Хадыкі быў адменены, а гурток гісторыі Беларусі забаронены і распушчаны. Я дагэтуль зьберагаю чарнавік таго свайго артыкулу 1984 году пра Унію і ўніяцкае мастацтва. Гурток ізноў дазволілі праз год.

З таго часу я цікавіўся Уніяй, зьбіраў, дзе мог, інфармацыю. Чытаў нават прапагандысцкія антыўнійныя кніжкі Дзьмітрука, Бажка ды іншых. Дапамог доступ да самвыдату паловы 80-х гадоў, калі я з братам прыйшоў у “Талаку”. Апрача Юр’я Хадыкі мне ў маім самаўсьведамленьні ў другой палове 80-х гадоў дапамаглі Анатоль Сідарэвіч і выкладчык нашага факультэту – дацэнт Юры Драгун. Выдатная асоба, беларус-патрыёт, ён вёў маргінальны курс гістарыяграфіі, у якім не баяўся расказваць студэнтам праўду пра Расею і яе палітыку ў нас у XIX ст. Трэба дадаць таксама і паходжаньне майго таты зь вёскі Кожава ў Заходняй Беларусі, дзе яшчэ памяталі і старую Унію, і Нэа-Унію, а таксама і факт далёкага сваяцтва нашай сям’і зь сям’ёй айца Лява Гарошкі з суседніх Трашчычаў – уніяцкага віцэ-экзарха Беларусі з даваенных часоў і пасьляваеннага архімандрыта на эміграцыі.

1 лістапада 1989 г. на Дзяды адбываліся ўжо дазволеныя шэсьце і мітынг у Курапатах. Падчас шэсьця да мяне падышла мая каляжанка па “Талацэ” Караліна Мацкевіч, якая тады разам з Алесяй Сёмухай выдавала бюлетэнь “Супольнасьць”. Яны рыхтавалі нумар, прысьвечаны рэлігіі. Караліна папрасіла мяне хутка прачытаць адказы на пытаньні “Супольнасьці” тагачаснага праваслаўнага беларускага актывіста Міхаіла Арэхава (калі я ня блытаю ягонае імя) і выказаць сваю думку. Я прачытаў і ў адказ абрынуў на галаву Караліны ўсё, што ведаў пра Унію (а ішлі мы ў Курапаты гадзіны тры). Караліна была ўражаная, захопленая і зьбянтэжаная. Яна папрасіла мяне як найхутчэй усё тое, што я ёй расказаў, выкласьці на паперы.

Ужо 3 лістапада пад псэўданімам Сяржук Мамчыц я напісаў артыкул “Апалёгія Уніі”, які было вырашана надрукаваць асобным дадаткам у чарговым выпуску “Супольнасьці” замест згаданых ужо адказаў Арэ-

Бацька Вінцука ўспамінаў, што ўніяцтва тады лічылася прэстыжным, багацейшым за праваслаўе, і дзяцей аддавалі ў гэтую царкву. Так што яго аддалі ва ўніяцтва, і потым бацьку Вінцука давялося маўчаць пра гэта і нікому не казаць, бо маглі быць благія наступствы. Распавёў ён пра гэта, калі ўжо адбыўся хрост дзяцей, бо мы Радаславу хрысьцілі разам з Франакам, калі ёй было 7 год. Франака і Радаславу хрысьціў айцец Аляксандар Надсан.

А потым мы сталі хадзіць у капліцу, якая знаходзілася ў Гандлёвых радах у Верхнім горадзе. Мне там вельмі падабалася, тая атмасфэра, служба. Падабалася, што ў капліцы была невялікая школка для дзяцей, куды хадзілі мае дзеці, адзначалі Калядкі, Вялікдзень. Андрэй Абламейка выкладаў навукі для дзяцей і заваяваў сэрцы нашых людзей. Калі ён зьехаў вучыцца, то я дала слова, што, калі стане сьвятаром, то мае дзеці будуць хадзіць у ягоную парафію. Так і здарылася. Калі Андрусь вярнуўся, то Радаслава пабегла да яго.

Атмасфэра ў гандлёвых радах была прывабнай, было нават, што бабулькі, якія хадзілі ў сабор, дзе месца не ставала, прыходзілі да нас. Прыходзілі і заставаліся, прыжываліся з нашай парафіяй, пражывалі тут сваё жыцьцё.



**Юры Хадыка, фізык, адзін зь лідэраў БНФ:**

Зь вялікім задавальненьнем падтрымаў ідэю заснаваньня ўніяцкай суполкі ў 1990 г., бо ўжо год пятнаццаць да гэтага лічыў сябе ўніятам. Маё самаўсьведамленьне, вядома ж, было тыповае для людзей камуністычнага часу. Спачатку я нават быў, можна сказаць, ніхто. Але мая бабка — праваслаўная, чалавек глыбокіх перакананьняў, да самой сьмерці ў 1961 г. ніколі не саромелася гаварыць пра царкву, пра Бога. Пад яе, мабыць, уплывам я ніколі не адчуваў нянавісьці да царкоўнай арганізацыі.

Ну, а потым у маім жыцьці склалася так, што я зьбіраў дзесяць год памяткі беларускага мастацтва. Знаёмства зь імі на пачатку 70-х пераканала мяне ў бясспрэчнай ісьціне, што ўсё сапраўднае мастацтва Беларусі з XVI па XIX ст. — уніяцкае. Яно было такое магутнае, такое самастойнае, што ўплывала на рэлігійнае мастацтва рыма-каталікоў, што былі ў Беларусі, і на праваслаўных. Зь любові да нашай культурна-гістарычнай спадчыны я стаў уніятам паводле перакананьняў. Уніяцкае мастацтва мае шэраг асаблівасьцяў, якія адрозьніваюцца ад заходняга ці ўсходняга мастацтва, і я стаў вывучаць яго.

У адно з рэдкіх падарожжаў на радзіму бацькі ў вёску Канева на Сеньненшчыне я, на сваё вялікае зьдзіўленьне, знайшоў на могілках, што мой дзед, які памёр вельмі маладым чалавекам у пачатку гэтага стагодзьдзя, быў уніятам: крыж у нагах. А бабка, якая перажыла яго гадоў на трыццаць пяць, пахавана была ўжо паводле праваслаўнай традыцыі. Гэта лёгка чыталася. І тады я зразумеў, што мая душэўная прыхільнасьць да уніі, да кампраміснай сытуацыі, да ўніяцкага мастацтва мела нейкія генэтычныя карані. Гэтым, магчыма, тлумачылася тое, незразумелае для мяне, вельмі талерантнае стаўленьне майго бацькі што да камунізму, што да бабчынай падкрэсьленай рэлігійнасьці. Мне стала многае зразумелым у нашай сямейнай сытуацыі, а таму з канца 70-х я сябе лічыў спадчынным уніятам.

Дзякуючы айцу Аляксандру Надсану ўдалося згуртаваць вялікую колькасьць нашых нэафітаў-інтэлігентаў, і калі гэтую справу падхапіў і айцец Ян Матусевіч, то вельмі хутка пачала складацца першая, потым другая ўніяцкая суполка, і сама заслуга рэгістрацыі, вядома, належыць Матусевічу, царства яму нябеснае. І першыя гады адносна вольнага існаваньня былі вельмі спрыяльным часам для папулярнасьці грэка-каталіцкай царквы. Пасьля таго як камуністычная ўлада, якая трымцела ў ня вельмі ўпэўненых руках, пачала набіраць жорсткасьці, нават слабыя пэрспэктывы, каб атрымаць памяшканьні для ўніяцкай багаслужбы, робяцца ўсё больш прывіднымі. Але гэта ня самае горшае, бо унія паводле свайго духу арыентуецца на хрысьціянства першых вякоў ад нараджэньня Хрыста, хрысьціянства дэмакратычнае, хрысьціянства, якое ахоплівала ня толькі царкоўны клер і фанатычна адданых вернікаў, як мы назіраем збольшага ў праваслаўнай царкве. Я думаю, што унія ў нас выжыве і адродзіць асноўныя рысы нацыянальнага характару, бо мы былі зьвязаны з уніяцкай сакральнай культурай: вось славутая талерантнасьць, уменьне жыць зь людзьмі розных нацыянальнасьцяў, поглядаў — гэта заслуга уніі, бо унія пабудаваная на вялікай цярпімасьці, і мне здаецца, за такім родам хрысьціянства будучыня.

**Запісаў Васіль Санковіч**

**ГАЛІНА ДУБЯНЕЦКАЯ**

## МАЛІТВА

У капліцы Тваёй  
запалі мяне ціхаю сьвечкай,  
прад абліччам Тваім  
у сутоньні мяне запалі...  
На зьмярканьні сьвятла  
блаславі мой самотны  
агеньчык,  
на зьмярканьні душы і любові  
на гэтай зямлі.

Прад абліччам Тваім  
дай гарэць трапятліва і ясна,  
чысьціню Тваіх рысаў  
на хвілю замгліць не дазволь...  
а як чэзнуць пачну —  
загасі мяне воляй уласнай  
у бажніцы Тваёй,  
дзе зьліваюцца міласьць і боль.

**1989**

хава. Здаецца, гэтай ідэі не падтрымала Алеся Сёмуха, і Караліна занесла артыкул да Ірыны Дубянецкай, зь якой тады пачынала сябраваць. Артыкул зрабіў уражаньне і на сям’ю Дубянецкіх, і ў справу ўступіла, так бы мовіць, цяжкая артылерыя – Міхал Дубянецкі, вядомы беларускі дзеяч. Артыкул вырашылі надрукаваць асобнай брашурай. 12 лістапада адбылося падарожжа групы менскіх інтэлігентаў у Баруны на сьвята Сьвятога Язафата, арганізаванае Міхалам Дубянецкім. Падчас яго мы прагаварылі дэталі і ўмацаваліся ў тым, што насьпеў час дзейнічаць. Пасьля ідэя брашуры хутка зьмянілася на ідэю выдаваць часопіс.

Напрыканцы лістапада 1989 году ў падвале аднаго з дамоў побач з Опэрным тэатрам у майстэрні скульптара Алеся Косткі адбыўся сход рэдакцыі будучага часопіса “Унія”. Там былі Ірына Дубянецкая, Караліна Мацкевіч, Генік Лойка, Зьміцер Беленькі, Павал Кавалёў, Уладзя Селядцоў і я. Мой брат Андрусь быў цалкам у курсе падзеяў, але служыў у войску (ён прыйшоў праз месяц і таксама ўключыўся ў справу). Пасьля было 8 месяцаў розных прыгодаў, перасьледу КГБ, зьнішчэньняў ужо набраных тэкстаў. Шмат працы выпала на долю Караліны Мацкевіч, а таксама Ірыны Дубянецкай... У сакавіку 1990 году адбыўся першы візыт у Беларусь айца Аляксандра Надсана. Ён наведаў Беларусь як старшыня брытанскага Беларускага дабрачыннага камітэту дапамогі ахвярам радыяцыі. Айцец Аляксандар прывёз хворым беларускім дзецям лекі. Аднак цікавасьць беларускіх грэкакаталікоў была настолькі вялікаю, што 11 сакавіка 1990 г. А. Надсан пры дапамозе Яна Матусевіча адслужыў у менскім Кальварыйскім касьцёле сьвятую Літургію за беларускі народ. Гэта была першая грэка-каталіцкая служба ў сталіцы, бо ўніяцкія службы не праводзіліся ў Менску ад скасаваньня ўніяцкай царквы ў 1839 г. 16 сакавіка 1990 г. айцом Аляксандрам была адслужаная другая Літургія. Цікавасьць была такой, што на ёй прысутнічала здымачная група папулярнай тады тэлепраграмы “Взгляд”. У адзін з тых сакавіцкіх дзён у нас на прыватнай кватэры адбылася сустрэча з Аляксандрам Надсанам, якому мы паказалі ўжо набраныя матар’ялы першага нумару часопіса “Унія”. Айцец Аляксандар тады, дарэчы, папярэдзіў нас, што мы нават не ўяўляем, які цяжкі шлях выбралі. Толькі праз гады я цалкам зразумеў ягоныя засьцярогі...

У ліпені 1990 году мы арганізацыйна афармілі сваю групу ў суполку “Унія”, якая стала калектыўным сябрам ТБМ. Старшынёй яе абралі Ірыну Дубянецкую, якая раней была абраная і на рэдактарку часопісу “Унія”. 6 жніўня 1990 году ў Доме літаратара пры поўнай залі адбылася ўрачыстая прээнтацыя часопіса “Унія”, надрукаванага, з-за перашкодаў КГБ, з дапамогай БНФ у Латвіі. Нас вельмі добра прынялі, часопіс літаральна расхоплівалі.

Наступны і лягічны крок – стварэньне парафіі. Толькі з пачаткам супольнага малітоўнага жыцьця пачынаецца містычнае быцьцё Царквы. Таму для нас было так важна стварыць парафію і пачаць набажэнствы. 21 верасьня 1990 году ў памяшканьні ТБМ на Румянцава мы правялі сход менскіх уніятаў (было чалавек 30–40) і ўтварылі царкоўны камітэт. У яго ўвайшлі Юры Хадыка, Анатоль Сідарэвіч, Ірына Дубянецкая, Караліна Мацкевіч, Андрусь Абламейка, Зьміцер Беленькі ды іншыя. За старшыню абралі мяне. Адразу ж мы пачалі праводзіць набажэнствы на кватэры ў айца Яна Матусевіча. Менш чым праз месяц, 19 кастрычніка, у Львове мы атрымалі ад тагачаснага Кіева-Галіцкага мітрапаліта Ўладзімера Стэрнюка грамату аб прыналежнасьці нашай парафіі да старажытнай Кіева-Галіцкай мітраполіі, што сталася адзіна магчымым на той час каналічным пацьверджаньнем нашага легальнага статусу. Ніколі не забуду мітрапаліта Ўладзімера і яго супрацоўнікаў, напрыклад, айца Рамана Шафрана, якія надзвычай шмат зрабілі для нашай Царквы.





Паралельна з намі з пачатку 1990 году пачала працаваць група гомельскіх уніятаў, якой кіраваў тады яшчэ праваслаўны сьвятар айцец Пётра Кузьмічоў. 30 кастрычніка, праз 11 дзён пасьля зацьверджаньня нашай парафіі, такую ж грамату ад мітрапаліта Ўладзімера атрымалі і яны. Адначасова айца Пётру прызначылі дэканам Беларусі.

Вось так са стварэньнем нашай парафіі выйшла з падпольля Беларуская Грэка-Каталіцкая (Уніяцкая) Царква. Пасьля нашай і гомельскай грамадаў на працягу кастрычніка-лістапада паўстала грамада ў Полацку, пачалі арганізацыйна афармляцца грамады ў Віцебску, Горадні, Маладэчне, Магілёве, Берасьці. Я невыпадкова ўвесь час падкрэсьліваю, што царква менавіта выйшла з падпольля. Пасьля выхаду першага нумару часопіса “Унія” ў рэдакцыю сталі прыходзіць лісты ад тых, хто быў хрышчаны перад вайной у часы так званай Нэа-Уніі або ад іх дзяцей. Апрача таго, цэлы пасьляваенны час у Альбэртын ля Слоніма для сьвятарскай паслугі прыяжджалі айцы-базыльяне. А з 1976 г. у Гародні працаваў айцец Віктар Данілаў.

**— Вы ў сьнежні 1991 г. дамагліся перадачы Вам касьцёла сьвятога Язэпа, дзе разьмяшчаўся і разьмяшчаецца Беларускі дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва...**

— Так, таму і парафія стала называцца імем Сьвятога Язэпа. Але да перадачы нам храма так і не дайшло... Архіў мусіў пераехаць у новае памяшканьне, але пераяжджае па сёньняшні момант... Увогуле можна шмат расказваць пра нашыя пакуты, цярпеньні, удачы і дасягненьні. Я тут толькі скажу, што вельмі хутка Эўхарыстыя зрабіла сваю справу, і наш рухператварыўся з напалову нацыянальнага ў сапраўдную Царкву. Сёньня ёсьць 16 парафіяў, два кляштары, сьвятары, дыяканы, манахі і манашкі, паўтара дзясятка сэмінарыстаў. Адбываюцца паломніцтвы, рэкалекцыі, працуюць нядзельныя школкі, выдаюцца газэты і малітоўнікі, працуе выдавецтва. Людзям ёсьць куды прыйсьці і памаліцца па-свойму, ёсьць да каго прыйсьці па духовае пацяшэньне.

Бог дапамог нам аднавіць Царкву, якая не выкарыстоўвае ніякай іншай мовы, апрача беларускай! Яна заўсёды са сваім народам. Напрыклад, 20 жніўня 1991 году, у другі, самы страшны дзень путчу ГКЧП, тады яшчэ айцец дыякан Андрэй Абламейка маліўся на плошчы Леніна (цяпер Незалежнасьці) разам з купкай пратэстуючых за краіну Беларусь. Здымак таго малебну быў у газэтах, і ён, я думаю, шмат каго ўмацаваў у адпоры путчыстам. Аднойчы я стаў сьведкам размовы двух беларускіх уніяцкіх сьвятароў, адзін зь якіх паляк, а другі расеец, абодва ня так даўно прыехалі ў Беларусь. Яны абмяркоўвалі нейкую шараговую службовую справу і рабілі гэта па-беларуску. Тады я падумаў, што вартую ўсё ж рэч мы распачалі...

**Прага-Менск**

Зь беларускімі ўніятамі можна скантактавацца праз тэл. у Менску: 220-47-89 (айцец Казімір), 242-92-36 (айцец Андрэй) і Берасьці: (0162) 24-74-82 (айцец Ігар), або электронную пошту: bgkc_carkva@mail.ru

Шукайце таксама інфармацыю на сайце:

www.byzantines.net/svjazep-miensk

# Вынік жыцьця за год

Вельмі Вам удзячны за падпіску на газэту. Шчыра дзякую, што цяпер маю магчымасьць чытаць "Нашу Ніву" па аўторках (да нас яна прыходзіць у аўторак), дзяліцца з суседзямі, нясу пачытаць у школу. У "НН" ёсьць шмат пераваг над іншымі газэтамі: няма праграмы тэлеперадач, амаль няма рэклямы. Уся карысная плошча газэты адводзіцца для камэнтароў, артыкулаў і праўдзівай інфармацыі, якой вельмі не стае беларусам. Інфармацыя, якая даецца на старонках "Нашай Нівы", лёгка ўспрымаецца. Беларускі пункт гледжаньня, не зьнявечаны савецкай, прыемны для душы. Але самае галоўнае — моц цудоўных артыкулаў і літаратурных твораў.

У восеньскіх нумарах "НН" асаблівую ўвагу прыцягнулі артыкулы "Царыца палёў" Тацяны Сьнітко, "Палякі-калгасьнікі" Анны Энгелькінг, "Тускнае золата" Сяргея Паўлоўскага, "Навучыць чалавека" Міхася Калесянца, "Гендэрная вайна" Евы Вежнавец. Ад іх рояцца думкі ў галаве, яны прымушаюць да разважаньняў. Хацелася б да іх шмат чаго дадаць. Вось у артыкуле "Царыца палёў" выказваюцца думкі і ўражаньні "вольнай гарадзкой асобы", якая на некалькі дзен зьехала ў веску, а хацелася б пачуць голас зь вёскі, зь "месца падзеяў". А мы, вяскоўцы, гэтак захапіліся зьбіраньнем ураджаю, што няма калі разгледзецца.

* * *

На дварэ ўжо сярэдзіна кастрычніка, а работ у полі шмат. Добра, што залатая восень дазваляе зьбіраць усе пасеянае і пасаджанае. Ролю бульбы ў жыцьці беларуса цяжка перааценіць. Гэты год выдаўся ня вельмі спрыяльным для яе. У пачатку лета амаль усюды бульбяныя палі стаялі пачарнелыя, пашкоджаныя нечаканым летнім замаразкам, здавалася — усё, бульбы ня будзе, але восеньскія паказчыкі па ўраджайнасьці вельмі стракатыя. У адных — добры ўраджай, у другіх — амаль загінуў, назьбіралі "толькі на сяўбу".

Вельмі добрыя ўраджаі бульбы з сваіх "сотак" зьбіраюць калгасныя "спэцыялісты". Гэта — "чырвоныя паны" і іх памагатыя. Справа тут ня ў тым, што яны вельмі вялікія "спэцыялісты". Свае "соткі" яны выдзяляюць самі сабе, выбіраюць для гэтага лепшую зямлю. Маючы ў сваіх руках калгасную тэхніку, добра ўрабляюць свае поле і даюць шмат угнаеньняў (зноў жа калгасных), цэлае лета апрацоўваюць пасевы (толькі ня самі), змагаюцца з каларадзкім жуком хімічнымі сродкамі (з дапамогай тэхнікі і толькі для сябе, бо хімікатаў бракуе). Увосень зноў уся тэхніка ў першую чаргу на сотках "спэцыялістаў". Што ж застаецца звычайнаму калгасьніку, пэнсіянэру і вясковаму інтэлігенту? Гэтым — соткі на любой адлегласьці ад сяла, няўробленая зямля (каб чалавек добра на ёй памучыўся і прывёў да толку), налета соткі даюць зноў у іншым месцы (і ніхто не падзякуе за дагледжаную раней калгасную зямлю). Апрацоўка каштуе вельмі дорага, улічваючы нехапоп тэхнікі, паліва і "фізычны стан" мэханізатара. Бывае, што людзі зьбіраюць бульбы столькі, колькі і пасадзілі, хоць ва ўмовах Беларусі можна зьбіраць па 400-500 цэнтнэраў з гектару, а ёсьць краіны, дзе меней за 600 ц бульбы з гектару не накопваюць. Вось зажылі б беларусы! Назіраючы, як вяскоўцы ўвосень здабываюць "царыцу палёў", часта можна забыць, у якім стагодзьдзі мы жывем. А як цяжка адзінокім, старым і зьнямоглым людзям, калі поле далёка!

Расказвае пажылы вясковец: "Працаваў раней у капальні вугалю, але так цяжка не працаваў, як на сваёй бульбе".

Гэтай восеньню, калі ў вяскоўца зьявіцца лішак бульбы, дык яго няма куды падзець. Дзяржаўным установам у нашым раёне загадана: "Не купляць бульбы ад уласьнікаў, а толькі з калгасаў!" Каб завезьці куды прадаць, то вельмі шмат каштуе транспарт, дый бульба танная. Аўчынка ня вартая вычынкі.

Яшчэ ня памятаю, каб свая бульба засталася ў каго-небудзь зімаваць у полі. Калі ў вяскоўца ёсьць бульба, то гэта гарантыя, што ён будзе мець што есьці і чым карміць падсьвінка.

Пра калгасную бульбу гаворка іншая, пра яе нікому "галава не баліць". Садзяць яе вясной шмат і ня думаюць, а хто будзе яе восеньню выбіраць. Як звычайна, зьвяртаюцца ў школу. Школьнікаў адрываюць ад вучобы і кідаюць на "бітву за ўраджай". Сёлета навіна — дырэктар школы запатрабаваў ад бацькоў пісьмовыя заявы, што яны ня супраць, каб дзеці рабілі на калгаснай бульбе. Адбылося, як на тым рэфэрэндуме — усе згадзіліся. Калі палічыць час, на які дзеці адрываюцца ад вучобы, можна сьмела выкрасьліць адзін навучальны год. Такім чынам, замест 12 гадоў вясковыя дзеці будуць вучыцца, як і раней, толькі 11.

* * *

Вяскоўцы амаль нічога не гавораць пра выбары дэпутатаў у палату прадстаўнікоў. Зьвесткі пра кандыдатаў зьявіліся толькі ў апошнія дні верасьня. Ужо ідзе трэці дзень датэрміновых выбараў, прыехала міліцыя на выбарчы ўчастак і папярэдзіла, што ў раён прыбыла група назіральнікаў з Ізраілю, а ніводзін з 8 кандыдатаў не сустрэўся з сваімі выбаршчыкамі. Якія кандыдаты далёкія ад людзей! Праўда, адзін з кандыдатаў ужо вызначыўся, прыслаў свае каляровыя ўлёткі з партрэтам, відавочна, багаты альбо вельмі патрэбны ўладзе, бо яго ўлёткі наклеены на ўсіх дзяржаўных установах і ляжаць на стале выбарчага ўчастка. Участковую выбарчую камісію ніхто не выбіраў, яе пакінулі ў тым складзе, які быў вызначаны на прэзыдэнцкія выбары ў 1994 г. Звычайна ў яе ўваходзяць вяскоўцы, якія любяць добра загуляць за дзяржаўны кошт. Памагатых і халуёў заўсёды хапае. Выбары пройдуць так, як пажадае мясцовая "вэртыкаль", а пасьля добрай выпіўкі чальцы камісіі заплюшчаць вочы на ўсе парушэньні.

А на вуліцы, як звычайна, людзі чакаюць машыну з хлебам зь Вялейкі. Хлеб прывозяць тры разы на тыдзень. Чакаць даводзіцца каля 2-3 гадзін, але вось паказалася "хлебная", і ў адзін момант выцягваецца чарга. Людзі кожны раз пытаюцца: "Колькі сёньня каштуе хлеб?" І кожны раз хлеб даражэе. Чуваць галасы: "Нічога, яшчэ не намнога падаражэў". Даражэе ён штотыдня. Адна бабулька, стоячы ў чарзе, паказвае грошы і пытаецца: "Ці хопіць мне сёньня на хлеб?" Сёньня хопіць, а наступным разам можа ўжо не хапіць.

Восень падводзіць рысу, паказвае вынікі нашага жыцьця за год.

**Яўген Стужынскі, Буйкі**

# Сорам з 1968 году

У жніўні-верасьні 1968 году мне пашчасьціла быць у Варшаве на курсах паляністаў. Пашчасьціла — бо ў тыя часы выбрацца за мяжу, хай сабе й да братоў па барацьбе з імпэрыялізмам, было справай далёка ня простай. Паездку тую арганізавалі па абмене невялічкіх груп студэнтаў Літаратурнага інстытуту імя Горкага і Варшаўскага ўнівэрсытэту.

У Варшаве мяне з Іванам Ласковым запрасіла да сябе на вячэру сям'я маладых выкладчыкаў — абое, муж і жонка, закончылі ўнівэрсытэт у Маскве. Чым, уласна кажучы, і тлумачылася іх гасьціннасьць.

Мы паехалі аўтобусам і бяз гіда, што звычайна быў з намі і аплочваў рахункі. На прыпынку ўвайшоў кантралёр — мужчына гадоў пад шэсьцьдзесят. У Польшчы студэнты карысталіся на гарадзкім транспарце ільготамі — талёнчык каштаваў на 50 працэнтаў таньней. Такія талёнчыкі мы і паказалі кантралёру. Той, зразумела, запатрабаваў ад нас студэнцкія пасьведчаньні. Але ж мы не былі польскімі студэнтамі і ніякіх папераў, што знаходзімся ў Варшаве ў якасьці студэнтаў, таксама ня мелі. Ласкоў пачаў блытана тлумачыць кантралёру наш статус, аднак бяз посьпеху, бо той, відаць было, наважваўся на больш рашучыя крокі. Ня ведаю, што нас чакала, але нашыя пляны пляжыліся. Тады я, спадзеючыся на лібэральнае стаўленьне да іншаземцаў, выразна адбіваючы словы, як салдат крокі, сказаў па-расейску:

— Мы из Советского Союза.

Што было далей, трэба было бачыць. Кантаралёр аслупянеў, потым падхапіўся і мітусьліва паціснуўся да дзьвярэй. Ён так і ня спраўдзіў білеты астатніх пасажыраў. Яго відавочны спалох і нечакана спрытнае зьнікненьне выклікалі сьмех, аднак сьмяяцца не выпадала. Падумалася: хто ж мы такія, калі ад нас бягуць, як ад нячыстай сілы? Я глянуў на Ласкова. Той таксама глядзеў перад сабой панурыўшыся.

Так упершыню мы сутыкнуліся на чалавечым узроўні з сутнасьцю так званага братэрства народаў і краін, што ўваходзілі ў Варшаўскую дамову. Пазьней, у Маскве, расказваючы сябрам ды знаёмым пра тую замежную паездку, мы пазьбягалі гаварыць пра варшаўскага кантралёра — было сорамна і за сябе, і за ўсіх нас. Цалкам верагодна, што той добра ведаў ня толькі абрэвіятуру "СССР", але і "НКВД".

**Віктар Бараноўскі, Горадня**

# Лістуюць Вам з Кобрыня...

Лістуюць Вам з Кобрыня. Вось што ў нас робіцца.

На выбарах перамог "несьмяротны" Віктар Кучынскі. Парушэньні па Кобрыншчыне былі ня ў меншай колькасьці, чым дзе. Шмат дзе ў калгасах старшыні загадалі забясьпечыць 100%-ую яўку пад пагрозай звальненьня з працы. За навучэнцаў кобрынскіх вучэльняў падстаўлялі галасы. Па вёсках хадзілі зь бюлетэнямі па хатах, а тады куды падзенешся? Не прагаласуеш, ня дасьць старшыня сена для каровы.

А ў калгасе імя Мічурына сёлета за кавалкі зямлі пад бульбу настаўнікам далі па 18 радкоў буракоў мэтраў па 200 кожны. Два разы прапалі, выберы да абшкрабі. Летам прапалоць неяк пасьпееш, а выбраць увосені, калі заняткі, і за два тыдні з жонкаю і дзецьмі не пасьпееш, а яшчэ ж свая гаспадарка... А грошы даюць — адны сьлёзы. За двухразовую праполку налічылі ажно 3500 рублёў. Зьдзек зь людзей усё большае.

**Ігар з-пад Кобрыня**

Блізкая гісторыя

Конкурс па гісторыі для школьнікаў Беларусі

## МОЙ РАДАВОД. ЛЁС СЯМ'І Ў XX СТАГОДЗЬДЗІ

**Арганізатары конкурсу:**

**Грамадзкае аб'яднаньне "Дыярыуш"**

пры ўдзеле: **Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

*У кожнай сям'і ёсьць свая гісторыя, кожны чалавек мае радавод. Гэтая гісторыя можа сягаць у сівую даўніну, але і калі вы ведаеце ўсяго некалькі пакаленьняў сваіх продкаў — гэта таксама гісторыя. Кім быў ваш прадзед? Як прайшло дзяцінства вашых дзядулі і бабулі? Чаму ваша сям'я жыве ў гэтых мясцінах і дзе вашыя продкі жылі раней? XX стагодзьдзе — гэта прынамсі чатыры пакаленьні вашага роду. Ці ня варта даведацца дакладней — хто вы і адкуль ваш род? Калі вам цікавыя гэтыя пытаньні, значыць, гэты конкурс для вас*

**Куды трэба адсылаць падрыхтаваную працу:**

Каму: "Блізкая гісторыя"
Куды: а/с 128, 220064, г.Мінск

**Прынцыпы падрыхтоўкі працы:**

Працу можна рабіць індывідуальна альбо групай, самастойна ці з дапамогай старэйшага. Кіраўніком (альбо куратарам) працы можа стаць ваш настаўнік, выхавацель, бібліятэкар альбо хтосьці з вашай сям'і. Адзін куратар можа весьці некалькі прац.

Форма працы можа быць адвольная: сачыненьне альбо эсэ, інтэрвію, фільм, аўдыёзапіс. Калі праца нятэкставая (аўдыё-, відэаматэрыялы, фотаздымкі), да яе павінна быць далучана пісьмовая частка, якая ўключае камэнтар да крыніц альбо адлюстроўвае працэс дасьледаваньня.

Праца мусіць мець творчы характар: не павінна быць перапісана з кніг ці з чужых артыкулаў.

Калі вы карыстаецеся якімі-небудзь матэрыяламі ці чужымі тэкстамі (а працы па гісторыі, даведнікі і прэса могуць быць карыснымі дапаможнікамі), абавязкова дайце спасылку на крыніцу. Калі вы маеце арыгінальныя старыя ці архіўныя дакумэнты, абавязкова пазначайце іх паходжаньне і назвы.

Аб'ём працы адвольны.

Працу пажадана пісаць па-беларуску. Тэксты крыніц можна падаваць на мове арыгіналу.

Ня мае вялікага значэньня, як аформлена ваша праца: надрукавана на пішучай машынцы, зроблена на кампутары альбо напісана ад рукі. Галоўнае, каб яна была выканана ахайна (калі гэта рукапісны варыянт — разборліва). Абавязкова аформіце тытульны аркуш, а таксама запоўніце анкету ўдзельніка.

Працу дасылайце ў адным асобніку.

**Нашыя каардынаты:**

"Блізкая гісторыя", а/с 128,
220064, г.Менск.
тэл./факс (8-017)227-51-09
E-mail: iryna@dyjaryush.org.by

**Усе ўдзельнікі атрымаюць памятныя прызы і дыплёмы, пераможцы — узнагароды.**
**Найбольш актыўныя куратары прац таксама будуць адзначаныя.**
**Рада Конкурсу распрацоўвае правілы Конкурсу,**
**вызначае кампэтэнтнае Журы, якое будзе ацэньваць працы.**
**У Раду ўваходзяць беларускія навукоўцы і грамадзкія дзеячы:**

Ларыса Андросік — архівіст
Уладзімер Арлоў — літаратар, гісторык
Вацлаў Арэшка — гісторык культуры
Лявон Баршчэўскі — літаратар, перакладчык (Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа)
Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта — гісторык
Алена Дэц — настаўніца
Ігар Кузьняцоў — гісторык
Галіна Перапечка — гісторык
Генадзь Сагановіч — гісторык (часопіс "Беларускі Гістарычны Агляд")
Анатоль Сідарэвіч — гісторык (часопіс "Крыніца")
Віталь Скалабан — гісторык (Навукова-дасьледчы асьветніцкі цэнтар імя Ф.Скарыны)
Алег Трусаў — гісторык (Таварыства беларускай мовы)
Міхась Чарняўскі — гісторык (Нацыянальная акадэмія навук Беларусі)
Захар Шыбека — гісторык
Сакратар Рады Конкурсу — **Ірына Коваль** (Грамадзкае аб'яднаньне "Дыярыуш")

Усе працы застануцца ўласнасьцю грамадзкага аб'яднаньня "Дыярыуш" і будуць стала захоўвацца ў Архіве найноўшай гісторыі. Лепшыя зь іх будуць надрукаваныя ў зборніку конкурсных прац, а таксама ў беларускіх пэрыядычных выданьнях. Матэрыяламі сваіх прац аўтары могуць карыстацца ўва ўласных публікацыях.

*Больш падрабязную інфармацыю пра наш Конкурс і брашуру з мэтадычнымі парадамі вы атрымаеце, калі зьвяжацеся з намі.*

# Магілёўскі стол

Гістарычны цэнтар Магілёва, аднаго з найбуйнейшых і найпрыгажэйшых гарадоў нашага сярэднявечча, уяўляе сабой зараз безгустоўную й бессэнсоўную сумесь гібеючых помнікаў даўніны, абшарпаных "райхстагаў" сталінскай пары, невыносна шэрых цагляных ды блёчных каробак часоў "дарагога Леаніда Ільліча", спраектаваных ды пабудаваных ці не сьляпымі.

Прыемна ўразіў мясцовы "Тыднёвік Магілёўскі", не чакаў сустрэць такое выданьне на Ўсходзе. Але нераскупленыя стосы "Нашае Свабоды", "Пагоні" ды таго ж "Тыднёвіка" ў шапіках прымусілі вярнуцца да рэчаіснасьці.

Па даўняй завядзёнцы, дзе б ні даводзілася бываць, усюды стараюся патрапіць у мясцовы краязнаўчы музэй. Наведаў і магілёўскі, адчынены пасьля шматгадовага рамонту. Прасторна, чыста, сьветла. Але подпісы расказваюць пра тое, як "польскіе і літовскіе феодалы в XVI веке отбіралі землю у белорусскіх крестьян", хоць Статут ВКЛ нагул забараняў іншаземцам набываць зямлю ў краіне, а "літовскіх феодалов", якія б адбіралі зямлю ў беларускіх сялян, было ў тую пару не нашмат болей, чымся гішпанскіх або партугальскіх.

У магілёўскім музэі можна даведацца й пра зьверствы ў Магілёве войскаў Карла XII ды пабачыць выявы вызваліцеляў — расейскіх "чудо-богатырей" (цэлая вялікая заля адведзена). Хоць у параўнаньні зь Пятром Карл у дачыненьні да Магілёва падаецца амаль што анёлам. Расейцы ніякіх "зьверстваў" у горадзе не чынілі, яны проста выпалілі й вынішчылі яго дарэшты.

Больш за іншыя экспанаты ўразіў мяне звычайны пісьмовы стол. Праўда, не зусім звычайны, а інкруставаны каштоўнымі пародамі дрэва. У 1942 годзе нейкі мясцовы ўмелец зрабіў яго ў якасьці падарунка "дарагому І.В.Сталіну" да 25-годзьдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі (калі даваць веры напісанаму побач). Застаецца невядомым, як ён зьбіраўся перадаць свой падарунак, але дазналіся быццам бы пра яго немцы і вырашылі падарыць гэты твор мастацтва другому крывасмоку — Гітлеру, так бы мовіць, ад удзячнага беларускага народу. Ды ня спалі ў шапку савецкія партызаны — пераправілі каштоўны выраб у лес разам зь яго творцам. Забыліся, праўда, пра жонку і трох дзяцей, якіх немцы і расстралялі. Большаму было восем гадоў, а меншаму не было яшчэ й году...

Калі на нашай зямлі паўстане калі-небудзь музэй злачынстваў — бальшавізму, камунізму ды таталітарызму, а такое абавязкова павінна стацца, дык сярод шматлікіх іншых экспанатаў абавязкова мусіць быць і гэты стол.

**Вячка Васілёнак, Менск**

# Музэй Караткевіча



**26 лістапада Беларусь будзе адзначаць 70-годзьдзе свайго любімага пісьменьніка – Уладзімера Караткевіча. З гэтае нагоды ў Воршы ў сьпешным парадку будуецца музэй клясыка.**

Пад яго ўлады аддалі будынак, дзе раней месьціўся радзільны дом, у якім і зьявіўся на сьвет Караткевіч. Прычым улада палічыла, што будынак замалы, і зрабіла да раддому прыбудову ды надбудавала другі паверх. Тут, акрамя мэмарыяльных заляў, будзе створаны культурны цэнтар – зь бібліятэкай, канфэрэнц-заляй і памяшканьнямі для дасьледчыкаў творчасьці Караткевіча. 26 лістапада адбудзецца адкрыцьцё толькі адной залі. Аўтар праекту – наваполацкі дызайнэр Ігар Куржалаў. Якраз ён разам зь Сяргеем Дзьмітрыевым дзесяць гадоў таму стварыў у Полацку Музэй беларускага кнігадрукаваньня.

Ворша імкнецца сабраць пад сваім дахам усё, што мае дачыненьне да любімага пісьменьніка – рукапісы, дакумэнты (у музэй ужо перададзены студэнцкі білет, залікоўка, білет сябра СП і інш.), а таксама фотаздымкі, лісты, фотаальбомы, малюнкі. Неўзабаве ў Воршу перавязуць мэблю й кнігі з працоўнага кабінэту пісьменьніка. Учора ў майстэрні Куржалава я трымаў у сваіх руках рукапіс п'есы "Млын на Сініх Вірах", гартаў залікоўку, — Караткевіч вывучаў філялёгію ў Кіеўскім унівэрсытэце, — разглядаў фотаздымкі. Дарэчы, дачка вядомага фатографа Валянціна Ждановіча, зь якім Караткевіч любіў вандраваць па Беларусі, перадала музэю 24 адзьнятыя фотастужкі і 80 фотаздымкаў – увесь гэты матар'ял мае дачыненьне да пісьменьніка.

Вось адзін з фактаў асабістага жыцьця пісьменьніка, да апошняга часу невядомы дасьледчыкам яго творчасьці – у Кіеўскім унівэрсытэце Караткевіч сябраваў з альбанскім пісьменьнікам Коча Біхіку. Летась Коча Біхіку даслаў празаіку й альбаністу Вінцэсю Мудрову ліст, у якім прасіў паведаміць адрас Караткевіча. Мудроў пераслаў у Тырану сумную вестку, — вось ужо 15 гадоў, як Караткевіча няма. Аднак у Беларусі ня меншае любоў да яго кніг. Назваўшы адзін са сваіх вершаў "Быў. Ёсьць. Буду...", Караткевіч не памыліўся.

**Алесь Аркуш**

# Клюб паэтаў зь берагоў Гараднічанкі

**Паэты ня вельмі любяць гуртавацца, прынамсі па-за сталіцай. У 300-тысячнай Горадні толькі зараз сямёра аўтараў вершаў абвясьцілі пра стварэньне «Клюбу паэтаў». Самы малады зь іх —Анатоль Брусевіч, які нарадзіўся ў 1977-м, найстарэйшы — Віктар Шалкевіч.**



Адразу вырашана паведаміць пра сябе рэчаісна — яшчэ сёлета ў Беластоку мае выйсьці зборнік на 120 старонак. Маладзейшыя надрукуюць па 12-14 вершаў, Шалкевіч — удвая менш. Называцца будзе кніжка «Лябірынты прывіднага замку». Апроч названых, у клюбе ўдзельнічаюць Анжаліна Дабравольская, Эдуард Мазько, Юрась Пацюпа, Васіль Дзівашэвіч і завадатар — Юры Гумянюк.

Трэба сказаць, што ў Лідзе мясцовыя літаратары, пераважна паэты, раней аб'ядналіся пад дахам альманаху «Ад лідзкіх муроў», які выдаецца больш-менш рэгулярна ўжо некалькі гадоў. Пачынаў яго Станіслаў Суднік, працягвае Юры Карэйва. Юры Гумянюк тым часам жадае аднавіць выданьне часопіса «Сьвіцязь», які выходзіў у 1994—95 г. стараньнем прафэсара Сяргея Габрусевіча. Гэта было рэгіянальнае гістарычна-культурнае выданьне абласной філіі Фонду культуры. Гумянюк хацеў бы пératварыць яго ў культуралягічнае, больш друкаваць літаратуры, артыкулаў аб мастацтве. І каб часопіс стаў агульнабеларускім.

А наконт Гараднічанкі... Дык большасьць гарадзенскіх паэтаў часьцей бачыць ейныя берагі, чым Нёманавы. Бо Гараднічанка праплывае па былой Гарадніцы, дзе стаіць унівэрсытэт і, у прыватнасьці, філфак. Да Нёману ж трэба яшчэ мець мэту, каб схадзіць. А на заходнім беразе ў занёманскай частцы гораду традыцыйна паэты жывуць радзей.

**Сяргей Астраўцоў**

### ДАЛОЎ ЛУКУ!

Берасьцейскія абласныя ўлады ліквідавалі на шашы Берасьце—Менск пад Кобрынем усе дарожныя паказальнікі з назваю вёскі Лука. Замест гэткай палітычна некарэктнай назвы цяпер усталявалі шыльды "Племзавод Дружба". Якраз гэты племзавод месьціцца ў вёсцы Луцэ. Кажуць, што й Луку пераймянуюць у Дружбу. Трэба чакаць, што неўзабаве мясцовы губэрнатар Даўгалёў зьменіць сваё прозвішча на больш кароткае ды мілагучнае Магілёў.

**Ян Дзямідаў**

ВОДГУКІ

# Матэматыка і мараль: ці вучыць "рэкардсмэнаў"?

Хачу падзяліцца з вамі думкамі з нагоды артыкулу М.Калесянца "Навучыць чалавека".

Мне здаецца, што аўтар артыкулу "Навучыць чалавека" ў дыскусійных мэтах занадта згусьціў фарбы. Я маю на ўвазе ягонае стаўленьне да ліцэйскай адукацыі. Сыходзячы з савецкай традыцыі, калі самай вялікай справядлівасьцю лічылася зраўняйлаўка і стандартызацыя, сапраўды, ліцэі і гімназіі – суцэльная дыскрымінацыя і несправядлівасьць у дачыненьні да сярэднестатыстычнага, а тым больш мала здольнага да навучаньня дзіцяці. Ці трэба нам зьбіраць "вяршкі" ў гімназіях і ліцэях? А потым яшчэ ў інстытутах і ўнівэрсытэтах? Можа, лепш вучыць аднолькава і гультая-другагодку, і пераможцу сусьветнай алімпіяды? Думаю, што дыфэрэнцыяванае навучаньне ў апошніх 2-3 клясах школы – цалкам неабходная, карысная і справядлівая зьява, прычым як у адносінах да дзяцей, так і да грамадзтва ў цэлым. Бо разнастайнасьць і свабода выбару (асабліва ў адукацыі) больш справядлівая, чым зраўняйлаўка і шэрая аднастайнасьць. Яна адпавядае дэмакратычным прынцыпам, да якіх мы, здаецца, усё ж пацiху рухаемся.

І яшчэ пару словаў пра настаўнікаў. Работа ў ліцэі не такая лёгкая справа, і далёка ня ўсе выкладчыкі здольныя да яе. Тут мала мець канспэкт і пляны ўрокаў 10-гадовай даўніны (што могуць дазволіць сабе настаўнікі звычайных школ), а трэба сачыць за навінамі, папаўняць свае веды і мэтодыкі, трымаць пэўны ўзровень ведаў па прадмеце. Вядома, аддача (дакладней, вынік) ад навучаньня "вяршкоў" большая, чым "аўтсайдэраў", але ж і патрабаваньні да іх куды вышэйшыя. У пэўным сэнсе выкладчык ліцэю ператвараецца ў трэнэра інтэлектуальных "рэкардсмэнаў", спэцыяліста па пераадольваньні ўнівэрсытэцкіх бар'ераў ці проста ў бясплатнага рэпэтытара (платным ён становіцца ў нерабочы час). Вядома, такую "гонку" на мяжы магчымасьцяў некаторыя вучні не вытрымліваюць (прыблізна 5--10%), дый на самога настаўніка яна накладае пэўны адбітак – ён можа часам здавацца занадта жорсткім, патрабавальным, бескампрамісным. На гэтай глебе здараюцца і канфлікты, часьцей ня з вучнямі, а з бацькамі, але пры чым тут прыніжэньне гонару і маральнасьці? Гэтая праблема народжана нашым жыцьцём, сёньняшнімі правіламі і традыцыямі паступленьня ў ВНУ, жаданьнем адных вучняў быць больш канкурэнтаздольнымі на абітурыенцкім "рынку", чым другія. А маральныя ўстаноўкі, чыста чалавечыя і пэдагагічныя якасьці ў настаўнікаў ліцэяў самыя розныя, як, дарэчы, і ў настаўнікаў школ. Гэтак жа, як розны іх аўтарытэт у вучняў: не заўсёды любяць задужа мяккіх ці паважаюць вельмі строгіх. Нярэдка высокія чалавечыя якасьці спалучаюцца з глыбокімі спэцыяльнымі ведамі і аўтарытэтам у вучнёўскім асяродзьдзі, хоць ёсьць і іншыя прыклады. І ўсё ж супрацьпастаўленьне матэматыкі і маралі, інтэнсыўнага навучаньня й гонару вучня, што памыліўся ў выбары, – даволі штучнае і непераканаўчае. Гэтаксама можна паставіць любую праблему, напрыклад, што лепш – піць гарбату або есьці хлеб? Але ж хіба нельга рабіць адно і другое адначасова? Ці ўвогуле перайсьці на каву зь бісквітамі? А калі няма схільнасьцяў да матэматыкі, то заняцца ангельскай мовай, хіміяй або ігрой на фартэпіяна. Выбар шляху ў 14-15 гадоў – справа ненадзейная і няпэўная. Сьмеласьць жа сказаць аб памылковасьці выбару або падказаць іншы кірунак – ня самая горшая пэдагагічная якасьць, якая, аднак, часам дорага каштуе яе носьбіту.

Праўды і памылак ня любіць ніхто, і тым ня менш у такім веку гэта не трагедыя, а падстава для больш упартай працы. Урэшце, невядома, хто ў выніку стане аўтсайдэрам, а хто - рэкардсмэнам. Мараль навучаньня і матэматыка жыцьця – зусім розныя рэчы, а менавіта апошняя выводзіць лінію лёсу чалавека. Чалавека, якога можна навучыць, перавучыць, падвучыць, але за якога нельга пражыць ягоны лёс, пазьбегнуць кону ягонага шляху.

**Лявон Вестыбюльскі, Магілёў**

АНОНС

### "БЕЛАРУСКІ ЧАС"

"Дзе грошы, Зін?" - пытаньне першай паласы нумара прафсаюзнай газэты "Беларускі Час" за 27 кастрычніка. Уладзіслаў Крумкач шукае адказ на тое, чаму дзяржава плоціць нам амаль удвая менш, чым павінна. На другой старонцы - міні-дасье Майкла Козака, новага пасла ЗША ў Беларусі, ды колькі словаў ад Міхаіла Чыгіра, які адрокся далейшага ўдзелу ў парлямэнцкіх выбарах. На чацьвертай паласе – гутарка з былым міністрам сельскай гаспадаркі Васілём Лявонавым. Пад шапкай "сацыяльны зрэз" - парады пра тое, як атрымаць крэдыт у беларускім банку і як выбраць добрую кілбасу ў краме. На апошняй старонцы - практычныя інструкцыі для тых, хто зьбіраецца вудзіць рыбу ў Сьвіслачы. Рыба ў сталіцы, аказваецца, экалягічна не забруджаная, яе шмат, водзяцца нават сазаны.

**А. К.**

ДЗЕ ВАРТА БЫЦЬ

## *Хор з Бэрліна*

У Менск прыяжджае камэрны хор Бэрлінскай школы мастацтва.

1 лістапада хор выступае ў канцэртнай залі Філярмоніі. У праграме – творы Габрыелі, Шутца, Брамса, Баха, іншых кампазытараў. Пачатак а 19-й.

## *Габэлены*

Беларускі габэлен у японскай стылістыцы – менавіта такія працы выставіць у менскім Палацы мастацтва Тацяна Белавусава-Пятроўская. Адкрыцьцё выставы — 31 кастрычніка а 17-й. Выстава адчыненая да 20 лістапада.

## *Міты Славука*

Адна з самых вусьцішных беларускіх кнігаў — "Шляхціц Завальня" Яна Баршчэўскага. Ад ілюстрацыяў да сучаснага выданьня гэтага твору таксама ледзянее сэрца. Сьвет міталягічных стварэньняў Валер'я Славука — у Музэі сучаснага мастацтва (пр.Скарыны, 47), дзе да 4 лістапада будзе адчыненая ягоная выстава. Выстава працуе штодзень, акрамя нядзелі і панядзелка, з 10.00 да 18.00.

## *Пахаваньне па-беларуску*

1 лістапада ў Нацыянальным музэі гісторыі і культуры Беларусі а 16-й адкрыецца выстава "Шляхі ў вечнасьць. Найстаражытнейшыя пахавальныя звычаі на Беларусі ў III-II тысячагодзьдзі да нашай эры". На выставе будуць прадстаўленыя атрыбуты старажытных беларускіх пахаваньняў, а таксама апісаны самі пахавальныя звычаі. Арганізатар выставы — археоляг Мікола Крывальцэвіч.

## *Шкляныя скарбы*

У Беларусі шкло пачалі вырабляць яшчэ ў II ст. Падзівіцца на шкляныя багацьці можна на выставе, што адчынілася ў Музэі гісторыі беларускай літаратуры, які знаходзіцца ў Траецкім прадмесьці (Багдановіча, 15). Самыя старыя вырабы адносяцца да X ст., самыя сучасныя — створаны ў наш час. Шмат экспанатаў з Нацыянальнага мастацкага музэю, з Нацыянальнага музэю гісторыі і культуры. Ёсьць і рэчы з краязнаўчых музэяў Віцебшчыны, Гарадзеншчыны, Магілёўшчыны, зь Нясьвіжу, Полацку. Найбуйнейшыя беларускія гуты — шклозавод "Нёман", Барысаўскі крыштальны завод — таксама не паленаваліся дастаць цікавыя вырабы са сховаў. Выстава працуе без выходных з 9-й раніцы да 8-й вечара.

**Алесь Кудрыцкі**

НОВЫЯ КНІГІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

**Гістарычна-археалягічны зборнік**. № 15 / Рэдакцыйна-выдавецкая група: В.Вяргей (кіраўнік) ды інш.; Навуковы рэдактар П.Лысенка. – Менск: Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, 2000. – 180 с., іл. – Наклад 215 ас. ISBN 985-6234-72-7

*Першы "Гістарычна-археалягічны зборнік" быў выдадзены яшчэ ў 1927 г., у 1993 г. выданьне адноўлена. У гэтым выпуску беларускія археолягі зьмяшчаюць матар'ялы пра свае апошнія раскопкі й дасьледаваньні. У параўнаньні з папярэднімі выпускамі, у гэтым болей артыкулаў пра менскую даўніну. Каштуе 2400 руб., набыць можна толькі ў менскай "Акадэмкнізе".*

А.Глёбус. **Тэксты**: Парк. Адзінота на стадыёне. Сьмерць-мужчына. Скрыжаваньне. Дамавікамэрон. Толькі не гавары маёй маме... Круглы год. Койданава. Новы Дамавікамэрон. Post Scriptum. – Масква: Выдавецтва "АСТ", 2000. – 1088 с. – Наклад 1000 ас. ISBN 5-17-001749-9

*Упершыню ў адным томе сабраны ўсе творы А.Глёбуса апошніх гадоў. У кнігарнях "Белкнігі" прадаецца за 4500 руб.*

**Nihil**: Часапіс для сапраўдных сымулякраў. № 1, 2000. – Менск, 2000. – 144 с., іл.

*Другі нумар "Nihilu" – выданьня Новага фронту мастацтваў, ачольванага Міхасём Баярыным. У нумары друкуюцца Юрась Барысевіч, Андрэй Хадановіч, Канстанцін Міхееў, Гальяш Сін. Надрукаваны дзьве літаратурныя фальсыфікацыі, падпісаныя імёнамі В.Акудовіча й Адама Глёбуса. У адрозьненьне ад першага нумару часапісу, у гэтым – палова тэкстаў па-расейску. Выданьне густоўна аздоблена мастацкімі фотаздымкамі. Юрась Барысевіч разглядае часопіс "Nihil" як мастацкую альтэрнатыву часопісу "Arche". Цана – 900–1000 руб.*

І.Пташнікаў. **Тартак**: Аповесьць і апавяданьні. – Менск: Мастацкая літаратура, 2000. – 462 с. – (Беларуская проза XX стагодзьдзя). – Наклад 2200 ас. ISBN 985-02-0496-6

*Кніга Івана Пташнікава "Тартак" працягвае "Залатую сэрыю" беларускай прозы, запачаткаваную выдавецтвам. Цана 850 руб.*

**Фрагмэнты філязофіі, культуралёгіі, літаратуры**. 1-2, вясна 2000. – Менск, 2000. – 308 с.

*Вясновы нумар "Фрагмэнтаў" мае тэму "Ідэя свабоды". Сярод аўтараў нумару - І.Бабкоў, В.Акудовіч, С.Варывоцкі, С.Падокшын. Набыць можна ў сядзібах БНФ "Адраджэньне" і ТБМ. Цана – 1100 руб.*

**История Беларуси в документах и материалах** / Авторы-составители И.Кузнецов, В.Мазец. – Менск: Амалфэя, 2000. – 672 с. – Наклад 4000 ас. ISBN 985-441-119-2

*У хрэстаматыю ўвайшлі найважнейшыя дакумэнты: прывілеі, маніфэсты, загады, граматы, законы, матар'ялы пэрыядычнага друку, успаміны найвыдатнейшых дзеячаў беларускае мінуўшчыны. Значная доля матар'ялаў раней была невядомая шырокаму колу чытачоў. Сярэднявечныя тэксты друкуюцца ў перакладзе на беларускую, іншыя – па-расейску. І хаця амаль усе тэксты зборніка існуюць на беларускай мове, незразумела, чым кіраваліся складальнікі, выбіраючы мову публікацыі таго ці іншага дакумэнту. Каштуе 2600 руб.*

**Колокола времён**: Популярный исторический журнал: Неизвестный Минск. Прогулка по затерянному городу. № 3, 2000. – Менск, 2000. – 16 с., іл. – Наклад 5000 ас. ISSN 1605-5381

*Па-беларуску, па-ангельску й па-расейску ў папулярнай форме распавядаецца пра найцікавейшыя мясьціны старога Менску: Верхні горад (Катэдральны касьцёл, Койданаўскую вуліцу, будынак, дзе месьціўся Інстытут беларускае культуры, пажарнае дэпо канца XIX ст. на Гарадзкім вале, дом Ваньковіча), Аляксандраўскі сквер з скульптураю "Хлопчык і лебедзь", вуліцу Падгорную (цяперашнюю Маркса), Чырвоны касьцёл на пляцы Незалежнасьці. Гэты нумар часапісу – найлепшая падарожная кніжка для вандровак па цэнтры сталіцы.*

**Падрыхтаваў Віктар Мухін**

Запрашаем на публічныя лекцыі й прэзэнтацыі

*31 кастрычніка*
Людміла Сільнова
*«Асобы і час у дарчых надпісах і экслібрысах на кнігах вядомых беларускіх аўтараў»*

Лекцыі й прэзэнтацыі адбудуцца ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Я. Купалы (актавая заля) па адрасе: вул. В.Харужай, 16
Пачатак а 18.30.

# Нашы тутэйшыя

Адам Глёбус




### 1975 ГОД. ЦЬВІРКА І МАЛЬБЭРТ У БАГАЖНІКУ

Пэйзажыст Віталь Цьвірка абсталяваў свой легкавік мальбэртам. Цьвірка выяжджае за горад, дзе любуецца прыродаю. Калі краявід падабаецца, ён загадвае шафёру спыніцца, адчыняе багажнік, дзе хаваецца стацыянарны раскладны мальбэрт, і малюе эцюд. Піша Цьвірка хутка. Якая гадзіна, і твор скончаны. Між іншым, краявіды ў Віталя Цьвіркі атрымліваюцца анталягічныя.

### 1976 ГОД. ГІЛЕВІЧ І КАРАТКЕВІЧ

Уладзімер Караткевіч жыве на пятым паверсе й любіць ладзіць начныя баляваньні. Кватэра Ніла Гілевіча — паверхам ніжэй, і ён любіць рана класьціся спаць, каб раніцай папрацаваць. Аднойчы балявальшчыкі так дапякаюць Гілевіча, што ён бярэ малаток, узьнімаецца да Караткевічавых дзьвярэй і грукае ў іх. На дзьвярах гадоў дзесяць відаць круглыя адмеціны.

### 1985 ГОД. ЛЕЦКА Й АДАМОВІЧ

Крытык Яўген Лецка на зьезьдзе пісьменьнікаў дэманструе прыклад сапраўднай мужнасьці. Ён адзіны, хто не баіцца выступіць супроць монстра саўдэпаўскай бэлетрыстыкі Алеся Адамовіча, які прыдумаў пад сябе тэрмін-азначэньне "беларускі пісьменьнік, які піша на расійскай мове". Лецка патлумачыў яму і ўсім прысутным — беларускі пісьменьнік піша па-беларуску, а расейскі — па-расейску. Ясьней яснага. Калі Адамовіч ня змог стаць расейскім клясыкам, дык беларускім ён таксама ня стаў. Адамовіч крыўдзіцца і ўцякае ў Маскву, здымаць няпраўдзівыя фільмы пра савецкую партызанку.

### 1987(?) ГОД. АТАС І НЯКЛЯЕЎ

Архітэктарка-рэстаўратарка Вольга Атас едзе на камсамольска-балдзёжную тусоўку ў гатэль "Юнасьць", што на Мінскім моры. Уночы да яе ў пакой прыходзіць п'яны паэт Някляеў і спрабуе легчы да Атас у ложак. Яна не пускае. "Дык што, мне тут на коўрыку класьціся?" "Кладзіся на коўрыку". Нараніцу Вольга знаходзіць паэта на "коўрыку". Некалькі гадоў камсамольская тусоўка называе Някляева "Коўрык".

### 1989 ГОД. ЯКУБОВІЧ І КАЦЮШЭНКА

Будучы рэдактар "Савецкай Беларусі" Павал Якубовіч любіць сесьці ў фатэль і пачытаць газэту. Ён сядзіць і чытае, калі былы рэдактар "Знамені юнасьці" Міхась Кацюшэнка падыходзіць да яго й падпальвае газэту. Жарт галоўных рэдактараў. Найлепшы лёс газэты, калі яе паляць. Хто, як не галоўныя рэдактары, гэта ведае найлепш.

### 1990 ГОД. АФАНАСЬЕВА І КАЛГОТКІ

Іна Афанасьева прыяжджае з Магілёва на рок-фэстываль "Тры колеры" ў Менск. Голас у Іны моцны, а рок-гурт — слабы. Ня ведаю, што здараецца ў Афанасьевай з кіраўніком гурту, але яна застаецца без калготак, а таму адмаўляецца выступаць у фінале. Тады Раінчык, той, што кіраваў усесаюзналюбімымі "Верасамі", ляціць дахаты й прывозіць сьпявачцы калготкі сваёй жонкі, так яму Інін голас падабаецца.

### 1996 ГОД. СЫС І ГОМАСЭКСУАЛІЗМ

Вядомасьць паэта Анатоля Сыса пачынае згортвацца, і ён вырашае падтрымаць яе эпатажнай чуткаю: маўляў, я — гомасэксуаліст, люблю радыёдыктара Валеру Будзевіча. Актор Будзевіч, як умее, падыгрывае Анатолю. Толькі я ведаю пра ілюзорнасьць Сысавых плётак, бо спаў з Анатолем у адным ложку ў кватэры паэта Някляева й ніякіх гейскіх схільнасьцяў у Сыса не назіраў.

### 2000 ГОД. ВЯЛЮГІН І БУСОН

Паэт Анатоль Вялюгін мае геніяльны верш "Сьпелы бор". Пачынаецца ён так:

*З усіх сабораў ёсьць сабор,*
*дзе згодзен я маліцца:*
*у сьпелым лесе, сьпелы бор,*
*зьвіняць твае званіцы.*

Жыве ў тым вершы барсук-манах. Таго барсука я чамусьці доўгі час ня дужа падабаў. Не злучаліся ў мяне манах з барсуком. І вось чытаю ў Бусона пра барсука, які перакінуўся ў манаха й перапісваў сьвятыя сутры, а калі людзі дазналіся, што манах — барсук-пярэварацень, ён скончыў жыцьцё самагубствам. Цяпер ягоная сутра лічыцца найкаштоўнейшай сьвятыняю.

Бясспрэчна, Вялюгін ня ведаў пра барсука-манаха са старажытнай Японіі, але вобраз стварыў запамінальны...

*Падсочак стрэлы на ствалах,*
*нібы крыжы пакуты.*
*Сьпяшаецца барсук-манах*
*у цёмны свой закутак.*

### 2000 ГОД. ЛУКАШЭНКА І ПАРТРЭТЫСТЫ

Больш як 6 гадоў Аляксандар Лукашэнка займае пасаду прэзыдэнта. І за гэты час я ні разу ня бачыў ні на адной выставе ягонага параднага партрэту. Такога вялікага, на поўны рост, напісанага алейнымі фарбамі на палатне. Каб партрэт зьявіўся, яго абавязкова заўважылі б і прыхільнікі Лукашэнкі, і праціўнікі. Партрэтыст займеў бы пэўную вядомасьць. Але параднага партрэту няма. Пра мастакоў-аматараў і карыкатурыстаў я тут не кажу, яны заўсёды паперадзе бацькі ў пекла лезуць. А дзе падзеліся прагматыкі ад мастацтва? Дзе акадэмічны партрэт першага прэзыдэнта? А можа, беларускія прагматыкі ад жывапісу пішуць партрэты Пуціна й Клінтана? Але й такіх партрэтаў не відаць.

### 2000 ГОД. ПУШКІН І МАЛАТОК

Наіўны мастак Алесь Пушкін не такі бяскрыўдны, як мне падаецца. Спачатку ён крычыць на вуліцы: "Беларусь без жыдоў і камуністаў!" і сядзіць у турме за хуліганства. Потым — псуе сьценапіс у магілёўскім касьцёле, а вінаватым выстаўляе кіраўніка праекту Міколу Залатуху. А цяпер расказвае, як у інстытуце разьбіваў малатком мой вітраж з выявай Дзевы Марыі. Маўляў, мастак-турыст Раманко кажа, што Адамчык зрабіў "храновенькі" вітраж, яго можна разьбіць, а шкло парэзаць на кавалкі, каб трэніравацца ў рэзцы каляровага шкла. І якія, цікава, цэрквы размалёўвае рука Пушкіна, якая разьбівала Дзеву Марыю? Зрэшты, уся хрысьціянская мараль будуецца на раскаяньні, на ператварэньні грэшніка ў сьвятога. Адзінае, што засталося яшчэ Пушкіну — пераназвацца ў Гарматава, як хрысьціянабойца Саўл, упаўшы з каня, ператварыўся ў Паўла.

### 2000 ГОД. САПАЧ І ЛІРЫКА

Паэтка Тацяна Сапач выдала ў 1991 годзе зборнік лірыкі "Восень". Я дзясяты год чакаю, калі зьявяцца "Зіма", "Лета", "Вясна". А іх няма й няма. Нібыта ў той Вільні, дзе цяперака жыве Тацяна, пануе вечная восень.

### 2000 ГОД. ФЯДУТА Й ВІК

Шальмавальнік грамадзкае думкі Аляксандар Фядута ў лісьлівым артыкуле пра былога шэфа нямецкай выведкі Ганса-Георга Віка напісаў, што ў нас "зласьлівая й дробязная ўлада" й "мелкаводная апазыцыя". І ў гэтых характарыстыках вымалёўваецца аўтапартрэт Фядуты, які быў зласьлівы й дробязны ва ўладзе й плыткадумны ў апазыцыі.



## прыватныя абвесткі

#### вітаньні

**Валька Д.!** Я цябе кахаю і хачу, каб ты была маёй. Валера Б. з Жодзіна

Сьпяшаюся павіншаваць **самую файную ў сьвеце Цёзку** з днём народзінаў. Няхай жыве вечны Прыколаў Дзень! Каця

**Мой доўгачаканы й шматкаханы Валерка!!!** Віншую! Жадаю табе болей радасьці, вясёлак і сябе. Алеся

**Дзядзьку Сяргею!** Віншую з Днём народзінаў. NO PASARAN! Аўстралійскі тушканчык. Вітаньне ад Дзікага сабакі Дынгі

**Наймудрэйшаму** сярод людзей і найпрывабнейшаму сярод мужоў Тутангамону віншаваньні, абдымаьні й цалаваньні. Любячы гарэм

**Файных маладафронтаўцаў з Бабруйску** віншуем зь мінулымі й будучымі сьвятамі. Тыя, Што Прыяжджаюць

**Любая мая Алёнка!** Са сьвятам! З Днём народзінаў! Няхай сёньня зьдзейсьняцца ўсе твае мары. Твой Валерка

**Лесенька!** Віншую цябе з Днём народзінаў. У гэты дзень, як і заўжды, я буду з табой. Кахаю. Валерка

**Увага! Увага! У Алеся й Міланы Міхалевічаў** нарадзілася дачка! Віншуем! Расьці здаровай і шчасьлівай, маленькая беларусачка!

**Сям'я Міхалевічаў** прымае віншаваньні з нагоды нараджэньня дачушкі

**Мілана й Алесь!** Няхай вашая дачушка расьце шчырай беларусачкай! Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў

**Алеся й Мілану Міхалевічаў** віншуем з нараджэньнем дачкі. Няхай яна будзе найпрыгажэйшай беларусачкай зь вялікім і шчырым сэрцам! Студэнты

**Беларускае студэнцтва** шчыра віншуе сям'ю Міхалевічаў з нараджэньнем дачкі

**Віншуем з нараджэньнем дачкі Алеся й Мілану** Міхалевічаў. Сябры

**Віншуем дачушку Алеся й Міланы Міхалевічаў** са зьяўленьнем на сьвет! Расьці здаровенькай, разумненькай і самай шчасьлівай!

#### друкарка

**Прадам ужываную друкарку "Украіна"**. 25000 руб. Ашмяна. Т.: (01593) 4-17-91

#### зацьвярджальнік

Набуду ці прыму ў падарунак **зацьвярджальнік для эпаксыднай смалы** — да ста мілілітраў. Бард Мельнікаў. Т.: (0232) 54-30-40

#### кантакты

**Шукаю выпускнікоў фізфаку БДУ**, гатовых спансараваць набыцьцё спартовай формы для факультэту. Т.: 235-15-20

**Шаноўная першакурсьніца** з "Пагоняй"! Дашліце, калі ласка, сваю адрэсу ці тэлефон. Студэнт ВДУ. Netgar@mail.lv

**Маладыя беларусы,** цікаўныя да нэапаганства, містыкі ды эзатэрычных ведаў, запрашаем вас да згуртаваньня. 220050, Менск, а/с 342

**Маладафронтаўцы Воршы**, дзе вы? Адгукніцеся! Настасься. Т.: 3-91-28

**Сьвядомы беларус альбо сьвядомая беларуска!** Калі табе 13-16 гадоў, лістуй на адрас: 222380, Менская вобл., Мядзел, Сонечная, 10. Віталь

**Валер, Сьвятлана, Алена, Андрэй!** Паведамце, як прайшла ваша асабістая віктарына. Нам цікава. Хлопцы з аўтобуса

**Краёўцы!** Шукаю з вамі кантакту. Хачу атрымаць "Голас Краю". Ня ведаю як. Патрыёт

**Шукаем кантактаў** з выдавецкімі ініцыятывамі, самвыдат. А/с 124, 246012, Гомель-12

**Цікавы мужчына** шукае актыўных сяброў сярод вайскоўцаў ці міліцыянтаў. Т.: 211-85-85 (аб. 8484)

#### кнігі, пэрыёдыкі

Набуду **"Энцыкляпэдыю літаратуры і мастацтва"** т. 1—3, 5. Т.: 283-27-34, Фёдар

Прадаю нядорага **падручнік ангельскай мовы Н.Бонк** (1-ая частка). Т.: 272-81-98

Набуду **апошнюю кнігу С.Букчына**. Т.: (0232) 45-51-12

**Часопіс "Калосьсе" № 5, 6, 7, 8.** Кошт 700 руб. Замаўляйце: Козік Аляксандар, п/с 14, Полацак-13, 211413

**"апошнія вершы леаніда галубовіча".** Кошт 1000 руб. Замаўляйце: Козік Аляксандар, п/с 14, Полацак-13, 211413

**Алесь Аркуш. "Выпрабаваньне развоем"** (эсэ, літаратуразнаўчая публіцыстыка). Кошт 700 руб. Замаўляйце: Козік Аляксандар, п/с 14, Полацак-13, 211413

**"Кроніка Белай Русі", інш. новыя кнігі, аўдыё- і відэакасэты**, кампакты зьявіліся на выставе ТБМ (Румянцава 13, з 11-й да 19-й)

З 31.10.2000 на выставе ТБМ пройдзе **Тыдзень Якуба Коласа**. Дэманструюцца экспанаты Коласаўскага музэя-сядзібы. Адчынена ў будні з 11-й да 19-й (Румянцава 13)

**Ludcy dobryja!** Pamažycie znajści rasiejska-biełaruski medyčny słoŭnik. Hinie bież jaho nacyjanalna śviedamaja lekarka. T.: 243-74-19, Natalla

**Куплю кнігу М.Мушынскага "Якуб Колас: летапіс жыцьця і творчасьці"**. Т.: 262-67-02, Валянцін Іванавіч

**Неўміручае эсэ Ўладзімера Арлова** "Незалежнасьць — гэта..." па-беларуску й па-расейску (для тупых) ды іншыя матэрыялы ў № 4 (13) газэты "Радавая Беларусь". Каб атрымаць асобнік, дашліце капэрту і 100 р. на адрас: а/с 169, 220030, Менск. (Не пазначайце на капэрце назову газэты — ня дойдзе!)

**Старыя нумары газэты "Радавая Беларусь"**: №7, 8 (1999), новыя выпускі — №3(12), 4(13), 5(14), 6(15) (2000) яшчэ можна набыць, даслаўшы за кожны нумар капэрту і 100 р. на адрас: а/с 169, 22030, Менск. (Не пазначайце на капэрце назову газэты — ня дойдзе!)

#### музыка, відэа

**Відэакасэты "Звычайны прэзыдэнт", "Страх"**, "Ноч доўгіх нажоў". 220005, Менск, а/с 13, Зьміцер

**Відэа па-беларуску**. Каталёг — бясплатна (дашліце купон+капэрту на адрас: 220107, а/с 150. Заходзьце на http://belvidea.net

**Беларуская музыка ў Берасьці.** Касэты, CD, плякаты і г.д., ёсьць CD N.R.M. "Тры чарапахі". Т.: 24-54-56

#### мэбля

Акуратная беларуская сям'я **прадасьць няновую мэблю** (усё якаснае, простае, драўлянае і ў нармальным стане): гарнітур у пакой (шафа д/адзеньня, шафы д/кніг і рэчаў, пісьмовы стол) пад чырвонае дрэва, румынскі, 70-х гадоў, буфэт, арэх, румынскі, 50-х гадоў ды іншае. Т. 284-47-49.

#### праца

**Графічны дызайн, Corel Draw, Photoshop**. Падрыхтоўка да друку. Шукаю працы. Т.: 223-94-53 (да 18.00). Алена

**Выканаю Вашы даручэньні ў Латвіі**. 3 разы на месяц бываю ў Латвіі. 220074, Менск-74, а/с 208, Віктару Мечыслававічу

#### сабака

**Згубіўся сабака. Абрыкосавы пудзель.** Каля Акадэміі Навук. Т.: 58-69-70

#### сябар для Антосіка

**Шукаем у Сухараве беларускамоўнага сябрука ці сяброўку** для нашага амаль 6-гадовага Антосіка. Т.: 215-84-09

#### эспэранта

**Эспэранта. Гэта новыя сябры, праца. Гэта твой шанец!** Ад Вас капэрта са зв/а + купон б/а. А/с 9, 246008, Гомель-8



## КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________

## паштовая скрынка

**А.С. з Навагрудка.** Калі чалавек сапраўднаю справаю агітуе, дык што ў гэтым кепскага?

**Алесю М. зь Менску.** У артыкуле многа звычайнага нігілізму, псэўданезалежніцтва і пераж оўваньня запушчаных афіцыйнаю прапагандаю мітаў. А вось пра патрэбу абапірацца на ўласныя сілы правільна чалавек піша.

**Яўгену Л. зь Менску.** Тэксты песень з акордамі пэрыядычна друкаваліся асобнымі выданьнямі і ў розных газэтах. Даведацца можна ў Віталя Супрановіча (017) 227-51-09.

**Натальлі В. зь Менску.** "У маладосьці жывеш, як у кіне, у старасьці, як у тэатры", — вось гэта толькі, бадай, і вартае надрукаваньня.

Наступны нумар "Нашае Нівы" выйдзе 8 лістапада 2000 году, у сераду.


НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

| | |
|---|---|
| кіраўнік праекту | Сяргей Дубавец |
| в.а. галоўнага рэдактара | Андрэй Дынько |
| заснавальнік | Павал Жук |
| карэктарка | Віялета Кавалёва |
| сакратарка рэдакцыі | Аляксандра Макавік |
| стыльрэдактар | Мікола Раманоўскі |
| адказны сакратар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | рэдакцыя газэты "Наша Ніва" |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Менск, а/с 537
Tel/fax: (017) 213-32-32
E-mail: niva@user.unibel.by
http://members.nbci.com/nasa_niva/


Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 6 палос фарматам А2. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Наклад 3552.
Нумар падпісаны ў друк 30.10.2000.
Замова № 5703.
Дыспэтчарска-рэдакцыйны адрас: Менск, Залатая Горка, 7/9